АЛЕСЬ РАЗАНАЎ

# ВАСТРЫЁ СТРАЛЫ

*Версэты, паэтычныя мініяцюры*

*Мінск
«Мастацкая
літаратура»
1988*

ББК 84Бел7
Р 99

Рэцэнзент
АНАТОЛЬ СІДАРЭВІЧ

Поэзия Алеся Рязанова примечательная своим обращением к кардинальным явлениям времени, ей присущи пафос преобразования и художественная смелость.

В книге представлены стихи-версеты: по своему характеру они близки к балладам и притчам и соединяют в себе повестийную интонацию и философскую афористичность, сюжетное развитие и размышление, реальность и магию фантазии.

Кроме того, в книгу вошли поэтические миниатюры.

Р $\frac{4702120200-072}{М 302(03)-88}$ 61—88

ISBN 5-340-00061-3

© Выдавецтва «Мастацкая літаратура», 1988.

## БЯЗМЕЖЖА

*Палову жыцця падаюся ў свет, палову — варочаюся са свету,*
*палову жыцця пішу на дарозе свае імёны,*
*палову — закрэсліваю напісанае,*
*палову жыцця расту ад зямлі, палову — расту з зямлёю:*

*і ўсё менш ува мне мяне, і ўсё больш бязмежжа.*

## *ПЯРЭЧАННЕ*

*Яшчэ здольны балець,*
*яшчэ здольны пакутаваць,*
*яшчэ здольны памерці,*
*я разбіваю душу і рукі аб камяні і сцены, якія мяне абступаюць.*

*Я парываюся з мінулага ў сёння, з бяспекі ў свабоду.*

*— Але мы твая абарона,— пярэчаць мне камяні і сцены,— мы тваё вонкавае цела,*
*мы ратуем цябе ад спёкі і сцюжы, ад агню і вады, ад кулі і шаблі,*

*бо ты яшчэ не здольны не балець,*
*бо ты яшчэ не здольны не пакутаваць,*
*бо ты яшчэ не здольны не памерці.*

## НАВОБМАЦАК

*Мы рухаемся навобмацак.*
*Калі настае дзень — мы заўважаем, што нам светла,*
*калі настае ноч — заўважаем, што цёмна,*
*калі адхіляемся з дарогі,*
*калі забягаем наперад альбо калі адстаём — тады непазбежна вяртаемся на ранейшае месца.*

*Мы рухаемся з адной цяперашнасці ў другую і як сваю долю прымаем тое, што ёсць.*

*Наша дарога праходзіць праз нашы сэрцы,*
*кожны наш крок — гэта крок за небакрай,*
*і ў кожным нашым імгненні змяшчаецца ўвесь час.*

## *ШЫЛЬДАЧКІ*

*На дрэвах — шыльдачкі.*

*На іх напісана, колькі якому дрэву гадоў, як яно называецца, якая яго таўшчыня і вышыня.*

*Людзі праходзяць міма дрэў, не заўважаючы іх,— яны чытаюць шыльдачкі...*

*А сведчанні дрэў так і застаюцца непачутыя,*

*а пісьмёны дрэў так і застаюцца непрачытаныя.*

## *У КРУЗЕ*

*Свет бязмоўна дапытваецца ў мяне, куды я іду.*

*Але хіба я ведаю сваю канчатковую мэту?*

*Я толькі спраўджваю тое, на што здатны, што вымагае ад мяне жыццё:*

*засмяглы — п'ю ваду,*

*галодны — ем хлеб,*

*зняможаны — адпачываю,*

*адпачыўшы, імкнуся наперад — і апынаюся на сваіх слядах.*

*Я ў крузе, дзе слова шукае Слова, а чалавек — Чалавека.*



## ПТАХ

*Вялізны хцівы птах пагойдваецца нада мною. Я ведаю: ён чакае маёй загубы. Тады ён з галодным хрыплым крыкам апусціцца на маё цела і цвёрдай глюгай ударыць мне ў твар.*

*Я напінаю лук і выпускаю стралу. Страла, не даляцеўшы да птаха, падае долу. Я падбіраю яе і зноў прыладжваю да лука: зараз я паспрабую стрэліць вышэй...*

*Але на ранейшым месцы птаха ўжо не аказваецца. Нібы нешта надумаўшы, ён пералятае наперад — туды, куды іду я.*

*Бяскрайні стэп.*
*І мы двое: я і птах — мой пракаветны вораг.*
*Ён адзін суправаджае мяне на маёй жыццёвай дарозе.*

*Дый, урэшце, як бы я ведаў, куды мне ісці, калі б ён час ад часу не залятаў наперад?!.*

## ГАВОРКА САША

*Мой аднагодак Гаворка Саша, задумаўшыся глыбока, сядзіць каля груды жалезнага лому, у жоўтай пожні:*
*кашуля расхрысталася на ім,*
*ля скроні кроў запяклася...*

*— Саша,— я клічу яго,— хадзем разам з усімі, з намі!..*

*А ён не адказвае анічога,*
*а ён застаецца на тым самым месцы,*
*а ён застаецца ў тым самым часе,*
*а ён застаецца на тым свеце,*

*дзівячыся на дарогу, па якой адыходзяць усё далей яго аднагодкі.*

## *У СТАРОЙ ХАЦЕ*

*У той старой хаце з сябрынаю за сталом сядзіць невясёлы бацька:*
*што было есці — паелі,*
*што было піць — папілі,*
*а ўсё адно не хапіла.*

*У акно зазірае ясная восень.*
*Гудуць далёкія цягнікі.*

*Бацька дае мне грошы і кажа: «Ідзі і купі дзе-небудзь яды і пітва, а купіш — тады вяртайся...»*

*Я праходжу каля глыбокіх чыстых азёр, у якіх залацяцца ўрачыстыя дрэвы і цямнеюць аблокі,*
*саджуся ў імклівыя цягнікі,*

*але сёння вялікі выходны:*
*усё заняла сабою гэтая восень,*
*усё заняло сабою гэтае чараванне,*
*усё заняло сабою гэтае хараство,*
*усё заняў сабой гэты дзень,*

*на ўскрайку якога ў старой сутонлівай хаце сядзіць па-ранейшаму за сталом з сябрынай сваёю бацька і ўсё чакае, калі я вярнуся.*

# *ВУЧАНЬ ЧАРАЎНІКА*

*Не ўтрываўшы, я адгарнуў наступную старонку...*

*«Ліхнаэль, Весмалон, Гермашур, Мэмрагай...» — я чытаю, спяшаючыся, няўцямныя словы-імёны той старой таямнічай кнігі, якую на часіну даверыў мне мой настаўнік...*

*А на двары раптам цямнее, як пры змярканні. Чароды птушак запалоньваюць двор і з гучным пранізлівым крыкам абрушваюцца ў дзверы і вокны.*

*Спалатнелы, я не паспяваю што-небудзь зрабіць, куды-небудзь падзецца, як у хату ўбягае ўгневаны чараўнік, выхоплівае кнігу, шэпча...*

*Ужо не вучань, я ўсё далей адыходжу ад чараўніковай сядзібы.*
*Аднак словы, тыя забароненыя словы-імёны, якія я вычытаў у кнізе...—*
*я мучуся, я намагаюся не ўспамінаць іх, не дапусціць іх да свайго розуму, не застацца з імі сам-насам...*

*Я баюся таго, што ведаю.*

*За вокнамі маёй свядомасці цёмныя крыкі.*

* * *

*Дзве мэты, якія пярэчаць адна адной, ува мне супадаюць: мэта — усё займець і мэта — ўсяго пазбыцца.*

*Што я адваёўваю ў дня — у мяне забірае ноч, што я аддаю раздарожжу — вяртае мне скрыжаванне.*

*І не хапае мне дня, каб усюды паспець, і не хапае начы, каб адусюль вярнуцца,*
*і не хапае жыцця, каб жыць,*
*і, каб не жыць, не хапае смерці...*

*Я маю — усё і не маю — усё.*
*Дзіўлюся на цені ўдзень і на зоркі — ноччу.*
*У вёсцы далёкай гарланяць пеўні.*
*Цьмен і палын абступаюць маю дарогу.*
*Сэрца сусвету б'ецца ўва мне.*

## СІНІЯ ЛЮДЗІ

*Крышыцца пад нагамі зашэрхлы снег.*
*Цямнеюць ямы з вадою.*
*Сакавіцкая ноч: хаты, і вокны, і вуліцы, ды — без нікога.*
*Бязлюддзе ў маёй душы, бязлюддзе — у свеце.*

*І толькі хістаюцца нада мною прадвесния дрэвы,*
*і толькі бягуць па небе аблокі,*
*і толькі імчыць кудысьці месяца сіні човен, а ў ім сядзяць сінія людзі.*

## НА ГЭТАЙ ЗЯМЛІ

*Хто пытаецца ў мяне дарогу на ўсход, хто — дарогу на захад...*

*Нібы раздарожжа, я паказваю ўсім куды ісці, а сам застаюся на месцы — на гэтай зямлі, пад гэтым небам,*

*занадта лёгкі для глыбіні,*
*занадта цяжкі для вышыні,*
*занадта цэласны, каб падавацца ў які-небудзь бок...*

*Вось мая левая рука, вось — правая...*
*Я кладу зерне ў дол — і яно вырастае ў дрэва:*
*на адной галіне ў яго сонца,*
*на другой — месяц,*
*рознагалосыя птушкі з усіх канцоў свету спяваюць на ім свае песні і ладзяць гнёзды...*

*Тут мой захад і тут — усход.*

## *ЛЕСВІЦА*

*Па крутой, стромкай лесвіцы я ўздымаюся ўсё вышэй і вышэй, каб дасягнуць нарэшце той апошняй, той завяршальнай прыступкі, з якой можна было б рынуцца ў неабсяжнасць —*
*і апярэдзіць самое жыццё,*
*і апярэдзіць самую смерць...*

*Колькі прыступак я ўжо мінуў?!.*
*Здаецца, іх утварае сама хада, сам рух, само маё падыманне ўгору, само маё спадзяванне, што там, вышэй, я стану мацнейшы, чым быў дагэтуль, і змагу тое, чаго не магу цяпер...*
*Яны адна з адной вынікаюць, яны адна другую прадбачаць, яны перашкода, яны і апора, яны спыняюць, яны і вядуць.*

*Вышэйшы за дрэвы, вышэйшы за гнёзды, вышэйшы за воблакі, вышэйшы за вышыню,— я слухаю-чую, як мне паўтарае ўпарта мой пакінуты ўнізе двайнік:*
*«Вяртайся!..*
*Прыступка апошняя тут.*
*У неабсяжнасць трэба ўздымацца адгэтуль».*

## БУДУЧЫНЯ

*Не бачу яе — прадбачу,*
*не чую — а прадчуваю,*
*не ведаю — а прадведваю...*

*Зямля запяклася, як чорная кроў.*
*Шчэраццa ззаду здані.*

*Боязь засцерагае: у будучыні — смерць!..*
*Адвага натхняе: у будучыні — неўміручасць!..*

*Мы аддзіраем сябе ад зямлі.*
*Мы ацярушваем ад глухаты свой слых, адтуляем ад слепаты свой зрок, з няўцямнасці выплаўляем сваё разуменне.*

*Гэта — паўстанне.*
*Насупраць нас — неабсяжнасць.*
*Цяжар вызвалення распроствае нашы паставы.*
*Мы становімся тым, кім яшчэ не былі.*
*Спрадвечныя зоры вандруюць праз нашы лёсы.*

## СЫНЫ ІОВА

*Мае браты збіраюцца разам — на святы, нарады, справы, што тычацца нас усіх.*

*Але я сцярожка сачу наўкола.*
*Я ўхіляюся ад сумесных сустрэч.*
*Калі ўсе прысутнічаюць, нехта, хоць бы адзін, адсутнічаць мусіць.*

*Я вартаўнік лёсу.*
*Я не магу яму даверыцца.*
*Я памятаю пра сыноў Іова: яны загінулі, калі сабраліся пад адною страхой усе разам.*

## ПРЫКМЕТЫ

*Каб адгарадзіцца ад выпадку, мы абгарадзілі сябе каменнай сцяною,*
*забрукавалі дол,*
*паставілі громаадводы,*
*уклалі законы,*
*распланавалі сваё жыццё далёка наперад — на дзесяцігоддзі, стагоддзі,*
*але...*

*Але на самым пачатку лета зажоўкла бярэзіна ў скверы,*
*але каля самае ратушы раптам, з палёту, упала мёртвая птушка,*
*але загарчэла вада ў студнях,*
*але старыя людзі спыняюцца на дарозе і кажуць: «Мы чуем, як плачуць нашы бацькі...»*

## ДРУГОЕ СОНЦА

*Запальваецца ў небе другое сонца.*

*Я хаваюся ад яго за старую шурпатую дзічку, але сонца прасвечвае яе наскрозь;*
*хаваюся за сцяну хлява, але цень ад яе празрысты, як дзень;*
*хаваюся за валун, што ляжыць каля студні, але ён як сіта;*
*хаваюся ў хату, а ў хаце звыклы спакой, а ў хаце ні цёмна, ні светла...*

*У хаце сядзяць, бы на свяце нейкім, бацькі,*
*у хаце сядзяць сваякі,*
*і так мне шкада, што я не з імі...*
*А маці — наўздзіў маладая — гладзіць мяне рукою па галаве, дзьмухае мне на твар...*
*— Вось і ўсё добра,— кажа яна.— Я пагасіла другое сонца.*

## *ТРАНСМУТАЦЫЯ*

*Рукамі абмацваю твар: аднымі часткамі цела адчуваю другія часткі.*

*— На каго ты падобны?!.— кажа сястра.*

*Не ведаю, на каго:*
*хто кажа — на камень,*
*хто кажа — на птушку,*
*хто кажа — на дрэва,*
*хто — на самога сябе...*

*Блізка вялікдзень.*
*У паветры разліты салодкі і горкі водар.*
*Падсыхаюць груды.*
*Цвітуць катахі вербалозу.*
*Прадвесціцца шчасце.*
*Сонца запальваецца ў грудзях.*
*З песняй і плачам кудысьці ідуць натоўпы.*

## ДЗІЧКА

*Дзічка-дзічка, чаму ты не груша?*
*Вось і піла ўжо зубіцца на цябе, і вострыцца ўжо сякера.*

*Але хіба ведае дзічка, чаму яна дзічка?*
*Але хіба ведае горкі палын, чаму ён горкі палын?*
*І хіба ведаюць людзі, чаму яны людзі?*

*Нешта пагасла ў свеце, нешта замоўкла, нешта асірацела.*
*Не ўсё, што расце, расце для яды, і ўсё, што расце, расце не аднаю ядою.*

*Прыходзіць з мінуўшчыны на апусцелае месца сівы дзядуля.*
*З будучыні выблісквае ў нашы вочы пажар.*

*— Яны не мелі таго, што мы сёння маем,— расказваюць сваякі пра людзей, што жылі калісьці,— але жылі яны лепш.*

*Ці ведае чалавек урэшце, што яму лепш, а што горш,*
*што — страта, а што — набытак,*
*што — немач, а што — здароўе,*
*што — мала, што — шмат?*

*Усё вырашае па-свойму розум, ды нешта ў жыцці не згаджаецца з ім.*

*Пад вечар запаліцца ў печы.*

*І загаворыць — апошні раз — з намі дзічка на самай відушчай мове — на мове агню.*



## ПАСТУХІ

*Яшчэ з лагчын не сышла вада, а тут, дзе гарыць цяпельца, ўжо досыць суха.*

*Прысеўшы каля цяпельца, чакаю, калі ад далёкага статка прыйдзе мой даўні сябра, з якім я не бачыўся шмат гадоў.*

*Тут стойбішча пастухоў: хто падыходзіць сюды, а хто адыходзіць, хто прышывае да світкі латку, хто самакрутку няспешна курыць, хто дастае з торбы харч...*

*«...Калі сабраліся ў іхнім двары, каб рэзаць тую карову,— апавядае стары пастух пра аднаго з пастушкоў,— ён раптам збляднеў, быццам смерць, заплакаў, схапіў, што было пад рукою,— шкліну і кінуўся з ёй на людзей.*

*Моцна сабе ён тады тою шклінай руку параніў, а крыкам, апостальскім нейкім крыкам: нельга рэзаць кароў!..— параніў людзей...»*

*Я ведаю: колішні той пастушок — гэта ён, мой сябра.*

*Гляджу на знаёмую вёску, дзе між драўляных хацін паўсталі гіганты-дамы,*

*гляджу ў агонь пастухоўскі, што супакойвае і непакоіць,*

*і ў неба, ўсё тое ж неба, дзе сярод белых аблокаў блукаюць разам душы апосталаў і кароў.*

❦ ❦ ❦

*На маёй дарозе ўзгоркі і ўпадзіны.*

*Але гэта м а я дарога: яна рухаецца, яна развавжае, яна размаўляе, яна ўдакладняе маю хаду.*

*Побач, непадалёку,— асфальтаваныя трасы: на іх усё роўна, на іх усё пэўна, пра іх усё наперад вядома: адкуль яны і дакуль...*

*Па іх імчацца аўтобусы і аўтамабілі, абапал іх пешаходы ўпэўнена крочаць, але самі трасы стаяць.*

*Я апускаюся ў новую ўпадзіну — і мяне апаноўвае змрок, якога няма яшчэ на зямлі,*

*уздымаюся на новы ўзгорак — і сустракаю яшчэ раз сонца, што ўжо на зямлі зайшло.*

## ВАНДРОЎНЫ ГОРАД

*Шумяць вяршаліны дрэў.*
*Неба зацягваецца смугою.*
*Усчынаецца дождж.*

*Я не хаваюся ад дажджу, не зважаю на дождж, я гляджу за Вялікае Поле, дзе бурштынава-жоўтаю светлынёю зорыцца небасхіл,— на адзіна празрысты шматок сярод хмурнай сінечы.*

*Там, быццам мачты дзівоснага карабля, акрэсліліся званіцы, спічастыя дахі, вежы, акрэсліўся горад —*
*які я шукаю па ўсёй зямлі,*
*горад, што выплыў з людской надзеі...*

*Хіба ўвесь шлях чалавека абмежаваўся зямлёй?!.*
*Хіба ўвесь сэнс чалавека замкнуўся наўколлем?!.*
*Хіба мае моц і вагу адно толькі тая думка, якая засціць?!.*

*Дождж прыбівае дарожны пыл,*
*хвошча па дрэвах, траве, будынках, руччамі цурчыць па равах...*

*А за Вялікім Полем ззяе бурштынава-жоўтая светлыня і, быццам кагосьці чакае, ўзвышаецца горад —*
*горад, якога няма на зямлі,*
*горад, які вандруе.*

## *ПАЛЁТ*

*Дакуль мне яшчэ трываць?*

*Птах, з якім я лячу праз імглістую бездань часу, з няволі — у вызваленне, са скрухі — у радасць, з цемры — у светлыню, паварочвае да мяне галаву і кажа:*
*датуль, пакуль хопіць часу,*
*датуль, пакуль хопіць цябе самога,*
*датуль, пакуль хопіць нас...*

*Я кармлю птаха сваім целам,*
*паю сваёю крывёю*
*і перастаю ўжо адрозніваць, дзе ён, а дзе я, а дзе час...*

*Усё загойваецца на мне маё цела,*
*усё аджывае ўва мне мая кроў,*
*усё патрабуе птах сабе новай ежы,*

*і ўсё доўжыцца праз стагоддзі наш нерухомы палёт.*

## *СЯРГЕЙ ЦЫГАН*

*Сябра майго маленства Сяргей Цыган стаіць на крутым пясчаным пагорку і з левай рукі шпурляе ўгору каменне.*

*Каменне, што мы кідаем заўзята, з падвойнаю моцай вяртаецца зноўку на дол, прымушаючы нас разбягацца, хавацца, ўхіляцца...*

*Але Сяргей Цыган не сыходзіць з месца: яму няма ад чаго ўхіляцца, яму няма чаго асцерагацца,— каменне, што ён зашпурнуў угору, і застаецца там.*

*— На тое ён і Цыган,— мы захапляемся і зайздросцім.— На тое ў яго такая рука...*

*Мы пакідаем потым пагоркі,*
*мы выпраўляемся потым дахаты,*
*кіруючыся на той двор, дзе жыве разам з маці і меншай сястрою Сяргей Цыган — сярэдзіна нашай сябрыны.*

*А ўвышыні, над зямлёю, плывуць кудысьці вялізныя хмары, і ў іх пагрозліва грукаюць камяні, якія пазакідаў на неба Сяргей Цыган са сваёй левай — шчаслівай сваёй — рукі.*

## *ЗОРКІ*

*Дачакаюся, калі прыйдзе ноч, калі ўзыдуць на небе зоркі...*

*Цямнее зямля,*
*цямнее вада,*
*цямнее трава,*
*цямнеюць будынкі...—*
*яшчэ нядаўна ўсё мела свае абрысы, яшчэ нядаўна ўсё свае межы мела, спрыяла адно аднаму, пярэчыла адно аднаму і было толькі часткаю наваколля.*

*Калі я ўзыходзіў на вежу — в е ж а ю разважаў,*
*калі ішоў па дарозе — д а р о г а ю бачыў,*
*а тут, а цяпер сачу, як усё становіцца ўсім,*
*як у вышынях недасягальных уваскрасаюць зоркі.*

*Ёсць нешта ў белым дні наступнейшае, чым дзень,*
*ёсць нешта ў цёмнай начы наступнейшае, чым ноч,*
*і ёсць нешта ў вежы наступнейшае, чым вежа,*
*і нешта ёсць у дарозе наступнейшае, чым дарога,*

*і ёсць нешта ў нас наступнейшае, чым мы...*

*Той, хто ішоў па дарозе, казаў: гэта — зоркі.*

*Той, хто ўзыходзіў на вежу, адказваў: гэта — мы...*

*Жывы на зямлі, нашу ў сабе сваю смерць і сваю неўміручасць,*
*і адкрываю жыццём зямлю,*
*і адкрываю смерцю нябёсы,*
*а неўміручасцю — што найвышэй за ўсё,*
*а неўміручасцю — што найбліжэй за ўсё,*
*а неўміручасцю — зоркі.*



## СХОВЫ

*Падамся самаю простаю сцежкай, але пярэймуць крывыя,*
*намацаю самую важкую думку, але староннія зоймуць увагу,*
*памкнуся спаткацца сам-насам са смерцю, але апынуся ў сховах...*

*З запаленымі ліхтарамі ў руках і з павязкамі-плейкамі на вачах прыходзяць і адыходзяць людзі.*

*Яны мне даюць гэткі самы ліхтар і гэткую самую плейку-павязку.*

*— Ты адшукайся,— кажуць яны.— Ты цяпер зноўку з намі.*

*— Навошта мне гэты ліхтар? — пытаюся ў іх.*

*— Каб бачыць у цёмным змроку,— адказваюць мне яны.*

*— Навошта мне гэтая плейка-павязка?*

*— Каб бачыць у яркім бляску,— тлумачаць другія.*

*А мне хочацца глядзець проста,*
*а мне хочацца разумець проста*
*і проста жыць —*
*і бачыць светлае светлым,*
*і бачыць цёмнае цёмным,*
*праўдзівым — праўдзівае,*
*крывое — крывым...*

*...На белай, на чорнай, на шэрай зямлі малюю, сціраю і зноўку малюю сваё аблічча.*

## *ЛАНЦУГ*

*На панадворку сабакі: на ланцугу.*

*Яны адважныя — дакуль дазваляе ланцуг,*
*куслівыя — дакуль дазваляе ланцуг,*
*брахлівыя — дакуль дазваляе ланцуг,*
*і злуюцца яны на ланцуг таксама — дакуль дазваляе ланцуг.*

*Наводдалі, вакол іх, блукаюць ваўчыныя зграі.*
*Яны прынюхваюцца да сабак, прыслухоўваюцца да сабак, але бліжэй усё роўна не падступаюць:*
*не дазваляе ланцуг.*

## *ТАНЕЦ З ВУЖАКАМІ*

*Змаганне захоплівае мяне: яно разнявольвае ўсе мае здольнасці, яно абуджае ўсе мае сілы, яно становіцца танцам, яно становіцца святкаваннем, яно тчэ з маіх рухаў свой непаўторны ўзор.*

*Я ашчаджаюся ад яго. І чакаю яго.*

*А з мора ўжо вынырнулі дзве вужакі — дзве неспатольныя помсты.*
*Яны апантана накідваюцца на мяне, абкручваюць слізкімі шчыльнымі звівамі, пстрыкаюць джаламі ў самы твар...*

*Я аддзіраю іх ад сябе, я душу іх рукамі, тапчу нагамі, кручуся, уюся, крычу...*

*Навокал, з усіх бакоў, збіраюцца гараджане.*
*Нібыта прыцягнутыя магнітам, яны глядзяць на мой адчайны міжбой, на мае пагібельныя вымогі...*

*— Якое відовішча!..— у захапленні, я чую, гамоняць яны.—*
*Мы першы раз назіраем такі напружаны рытм,*
*мы першы раз бачым такі выкшталцоны танец.*

## *ПАСТКІ*

*Каб не баяцца хадзіць у лес, панастаўлялі аднавяскоўцы ў лесе ўсялякіх пастак: на ліса, на рысь, на ваўка, на дзіка, на мядзведзя...*

*Пайшоў Сымон паглядзець, што трапіла ў яго самаловы,— трапіў у нейчы сам,*
*пайшоў Тарас паглядзець, што трапіла ў яго петлі,— заблытаўся сам у нейчай,*
*пайшоў Дамінік паглядзець, што трапіла ў яго ямы,— нібы скрозь зямлю праваліўся, кудысьці прапаў...*

*І пачалі яшчэ горай людзі баяцца лесу:*
*там водзяцца рысі,*
*там водзяцца лісы,*
*мядзведзі,*
*ваўкі*
*і — пасткі.*

## *АПОШНІ АРГУМЕНТ*

*Перад тым як пачнецца бітва, бяссонныя звездары разважаюць-гадаюць, чым яна скончыцца, на чый бок схіліцца перамога.*

*Я таксама ўзіраюся ў зоркі,*
*слухаю, як шамацяць лісты,*
*сачу, як дзьме вецер і як палымнее агонь...—*
*усё заўважаю, ўсё ўлічваю і вырашаю ўхіліцца ад заўтрашняй бітвы:*
*акалічнасці складваюцца супраць нас.*

*— Аднак ты забыўся ўлічыць яшчэ адзін аргумент — апошні,— кажа галоўны звяздар,— той аргумент, што ўвесь час засланяецца ад цябе табою.*

*Я гляджу на яго — і разумею яго.*

*Кладу руку на агонь — і агонь, які перад гэтым кусаўся люта, ліжа маю далонь.*

*Мой апошні, непераможны, утоены і ад мяне аргумент,— я сам.*

## ВІДУШЧЫ КАМЕНЬ

*З веку ў век ляжаў ля гасцінца камень.*
*З веку ў век ішлі па гасцінцы людзі.*

*Людзі глядзелі на камень, камень глядзеў на людзей, глядзеў-прыглядаўся і, ўрэшце, зрабіўся відушчым.*

*І стала яго відушчасць праменіцца на гасцінец і абпраменьваць кожнага, хто па гасцінцы ішоў.*

*І сталі рабіцца відушчымі людзі, і стаў кожны ў кожнага бачыць думкі — пярэстыя, простыя, пакручастыя, белыя, шэрыя, чорныя, каляровыя, і стаў кожны кожнага без слоў разумець.*

*Спачатку ўсе ўзрадаваліся, а потым палохацца сталі гэтага свайго разумення, відушчасці гэтай нязвыклай сваёй.*

*Накінуліся грамадой на камень — і саштурхнулі яго ў глыбокую яму, але на трэці дзень стала свяціцца яма,*
*укінулі камень у мора — на шосты дзень стала свяціцца мора,*

*закінулі камень высока ў нябёсы — камень адно ўсміхнуўся і стаў, быццам новы месяц, кружыцца і зззяць над усёй зямлёй.*

*Так скончыўся колішні свет і настаў — відушчы.*



# *ДУБОВЫ ПЛОТ*

*Я рухаюся ўздоўж плота — і плот рухаецца ўздоўж мяне,*

*спыняюся перад плотам — і плот спыняецца перада мной...*

*Ён побач, але калі я спрабую ступіць да яго бліжэй — ён адступае.*

*З таго боку плота ў доўгай зрэбнай кашулі ходзіць мой дзед. Ён па-змоўніцку мне махае рукою: хадзі сюды — я адкрыю табе таямніцу жыцця...*

*Але паміж намі дубовы плот.*

*На кожнай штакеціне плота — бязмоўная дзедава галава.*

## ЛЯСНАЯ ДАРОГА

*Едзем на возе з Хведаркам Барадатым па даўняй лясной дарозе.*

*Павыступалі з зямлі вузлаватыя карані, быццам чыесьці крыкі і нараканні.*

*Апавядае Хведарка Барадаты, як шмат тут чаго за вякі адбылося:*
*як людзі людзьмі пераймаліся,*
*як людзі людзьмі рабаваліся,*
*як забіваліся людзі людзьмі...*

*— Я ведаю,— кажа ён,— толькі трохі, ды ўсё, што было тут, да самых апошніх драбніц, адкрыецца на судзе, на тым страшным судзе, дзе ўзважвацца будуць людскія душы.*

*Просяцца ў нас, каб падвезлі, каго даганяем: дзядзькі, дзецюкі, маладзіцы, падлеткі, жанкі, старыя,— і мы іх бяром, бо ўсе, хто ні ёсць на гэтай дарозе, ужо не староннія нам, не чужыя, ужо, нейкім чынам, с в а е.*

*Зыбаецца воз па пяску, ляскоча воз па карэнні,*
*Хведарка Барадаты махае лейцамі і паганяе каня...*
*Цесна пасеўшы, усім хаўрусам едзем па даўняй лясной — па людской!..— дарозе, едзем на страшны суд.*

## ПАДАРУНАК ХРОСНАЙ МАЦІ

*Хросная маці аддае мне свой падарунак. Гэта люстэрка. Я спрабую ўгледзець у ім сябе, але дарэмна. Яго паверхня зморшчаная і цьмяная, быццам чыясьці далонь.*

*— У ім жыве бог,— кажа хросная маці.— І некалі ты яго ўбачыш...*

*Здараецца, люстэрка яснее, зморшчыны разгладжваюцца — і тады мне відаць то птушка, якая ляціць, то паставы людзей, то абрысы незразумелых рэчаў...*

*Я губляюся ў меркаваннях: магчыма, я ўжо бачу бога, ды толькі не ведаю, што гэта ён.*

## ЗАВАЁЎНІКІ

*Яны ідуць па чужой зямлі.*

*Кожны іх крок — парушэнне невідавочнай мяжы, якая ўтрымлівае іх саміх у іхніх абліччах, у іхніх імёнах, у іхніх жыццях...*

*Яны выходзяць з сябе: скура старых забаронаў выварочваецца на левы бок.*

*На іх наведзена пільная лінза нябёсаў.*

*Сярэдзіна свету перамяшчаецца разам з імі.*

*За імі гарыць зямля.*

*Яны не змогуць вярнуцца.*

## *АСКЕПКІ*

*Люстэрка, ў якое я бачыў сябе, расцялася на аскепкі —*
*і кожны аскепак расказвае мне пра сваё,*
*і кожны гаворыць са мной па-свойму...*

*У адным — сціскаючы шчыт і меч, я ваюю на полі бою,*
*сяджу на ўзбярэжжы вялікай ракі — у другім,*
*у трэцім — кляновай сахою ару палетак,*
*праз урвішчы і кустоўе ўцякаю ад насцігачоў — у чацвёртым,*
*у пятым — схіляючыся ля горна, сплаўляю серу і ртуць...*

*Я спрабую злучыць аскепкі ў адно, але пярэчаць сколы,*
*спрабую ўсіх гэтых — такіх разнаісных — людзей пазнаёміць паміж сабой, але не дазваляюць краі...*

*Ты, загнаны ўцякач, за кім небяспека цікуе хціва,*
*ты, засяроджаны ў позе лотасу ёг,*
*ты, руплівы ратай,*
*ты, рымлянін ваяўнічы,*
*і ты, чарадзей-алхімік,*

*хіба вы нічога-нічога не ведаеце пра мяне?!.*

*Я той, хто стаіць проці вас, і ўзважвае вашы жыцці, і пераходзіць з аскепка ў аскепак, не ранячыся аб краі.*



## *ІВАН ГУГОВІЧ*

*Колішні брыгадзір паляводчай брыгады Іван Шайкаловіч, па-вулічнаму Гуговіч, казаў, што ён пражыве семдзесят два гады.*

*Стольki разоў адстукаў яму ў часы яго маладосці, яшчэ пры Польшчы, на адным спірытычным сеансе драўляны столік.*

*І з ім, і вакол яго ўсё мянялася неаднаразова, і ў чужых землях, і на сваёй зямлі гінулі аднавяскоўцы, а Іван Гуговіч, нібы зарок, насіў у сабе тую звестку, якая прыйшла да яго з яго канца...*

*І калі па вёсцы блукалі ўпартыя чуткі: будзе вайна, і ў ёй аніхто не ўцалее, а ў краме бралі мяшкамі запалкі, мыла і соль, я не згаджаўся: не будзе — Івану Гуговічу яшчэ далёка да сямідзесяці двух гадоў.*

*Загінуў ён неяк дзіўна. Паехаў на возе ў лес, а перад мостам чамусьці збочыў, паехаў па-плыткаму — уброд, праз рэчку...*
*Там і знайшлі яго: на беразе ходзіць конь, воз у вадзе, а пад возам Іван Гуговіч, адно вытыркаецца, у кола ўчаперыўшыся, рука...*

*Рознае меркавалі пра выпадак гэты. А я прыгадаў ягоны расказ, якому і сам ён здзіўляўся, нібы не верачы, як гэта можа быць...*

*Ён не дажыў паўгода да тэрміну, што яму тады налічыўся,— мабыць, апошні раз столік стукнуў цішэй.*



## АДГЭТУЛЬ

*Крэсліць вакол мяне доля свае заклёны-кругі.*
*Груган сядзіць на вяршаліне дуба.*
*Складаюцца зоркі ў знакі нераспазнанай карты.*
*Аспрэчвае мэта, што ёсць.*
*Сны зберагаюць, што трачу.*
*Ці самы апошні круг — небакрай?*

*За мною, ўдалечыні, зноў зеляненюць лясы, зноў палавее жыта, зноў белымі, сінімі, жоўтымі кветкамі ўпрыгожваюцца лугі...*

*Але не магу я вярнуцца туды, дзе ўжо быў,— проці сваіх слядоў,*
*і не магу затрымацца тут, дзе знаходжуся сёння.*

*Мая прастора — мяжа.*
*Мой час — вастрыё.*
*Мой шлях — шлях агню: адгэтуль.*

## *ПАРОГ*

*Парог урос у зямлю, струхлеў...*

*Я б'ю па парозе нагою — з яго сыплецца парахня.*

*Але гэткі ён толькі зверху, далей ён трывалы, далей ён моцны — і шашаль яго не стачыў, і цвіль яго не збуцвіла.*

*— О, яму безліч гадоў,— кажа брат.— І высечаны ён з дрэва, якога цяпер няма ўжо,— са шчырага дрэва, і высечаны людзьмі, якіх гэтаксама няма...*

*Мы не ўваходзім у хату: у ёй жылі нашы дзяды, у ёй жылі прадзеды нашы, а мы стаім на парозе, на шчырым парозе, і адчуваем, што мы гэтаксама парог, да якога — няма нас, і пасля якога — няма...*

*Ёсць месца ў набытку і месца ў страты.*

*Дзе растлумачыцца чалавеку, хто ён такі?*

*Хаты чакаюць, што вернуцца людзі.*

*Пыл ацярушваецца на парозе.*

*Калі мы са светам — мы супраць свету,*

*калі мы з прыродай — мы супраць прыроды,*

*калі мы з родам — мы супраць роду...*

*Мінулае тоіцца ў змроку, будучыня — у светлыні.*

## *МЫ, ЛЮДЗІ*

*На даляглядзе, у самым канцы пакручастай доўгай дарогі,— сонца,*

*а на дарозе, ва ўсю яе даўжыню,— мы, людзі...*

*Калі мы лічым адно аднаго па пальцах — нас шмат,*

*калі мы лічым адно аднаго па душах — нас мала:*

*нам яшчэ трэба ўбачыць у іншых сябе, у сабе — нябёсы, ў нябёсах — сонца, а ў сонцы — сонцалюдзей.*

*Спыніўшыся на дарозе, адны з нас будуюць на ёй жытло. Мы ўжо знайшлі,— яны кажуць,— месца сваё пад сонцам.*

*Другія, збаяўшыся, што іх у канцы не стане, падаюцца назад, ва ўсё большы цень.*

*Трэція, аддаўшы дарозе, што іх затрымлівала і цямніла, ўваходзяць, быццам у браму новага свету, у сонца, і самі становяцца сонцам, і ў людзях зямлі прадбачаць сонцалюдзей.*

## *АДЛЮСТРАВАННІ*

*Па засяроджаных кольцах пня стану гадаць пра леты, якія сплылі,*
*пра зімы, якія расталі,*
*а па люстэрках — пра тое, хто я...*

*Усё, што з люстэркаў ідзе да мяне насустрач, прыходзіць насупраць,*
*усё, што знаходзіцца праваруч, апынаецца леваруч,*
*і тое, што ёсць адно, становіцца тым, чаго шмат.*

*Увасабляюся — у люстэрках,*
*мяняюся — у люстэрках,*
*распазнаю па люстэрках, дзе праўда, дзе крыўда,*
*дзе цемра, а дзе святло...*

*Цемра — найбольшае адасабленне: у ёй нічога няма.*
*Святло — найбольшае ўвасабленне: у ім ёсць усё.*

*Я сустракаю ў люстэрках знаёмых і незнаёмых людзей, я сустракаю ў люстэрках птушак, вужак, жывёлін, я сустракаю ў люстэрках нажы і ружы —*
*і ўсе яны маюць штосьці да мяне.*

*— Ты яшчэ ані разу не бачыў сябе,— запэўніваюць яны.— Заўсёды і ўсюды ты бачыш адно толькі нас — свае шматаблічныя адлюстраванні...*

*Няўжо без люстэркаў думка не ведае, што падумаць, позірк — куды пагляддзець, дарога — куды падацца, жыццё — як жыць?!.*

*Некалі, вырваўшыся ў наступнасць, туды, дзе мяне няма, убачу далёкую постаць, якая блукае сярод люстэркаў і намагаецца ў адлюстраваннях кагосьці знайсці.*



## ГОСЦІ

*Госці прыйшлі ў мой дом.*

*Пытаюся, што ім трэба.*
*Адказваюць госці: мы хочам узяць свой скарб.*

*Пытаюся, хто яны.*
*Адказваюць госці: гаспадары.*

*Відаць, памыліліся госці і забрылі не ў той дом. Я жыву тут ад нараджэння і ведаю ўсё да апошняй драбніцы: вунь — столь, вунь — падлога, вунь — рэчы, бо ўсё, што ні ёсць тут,— яно маё.*

*Ды госці ўзрываюць маснічыны — і дастаюць з-пад іх куфар,*
*вымаюць пару цаглін са сцяны — і ўжо трымаюць шкатулку ў руках,*
*лезуць пад столь — і выцягваюць з нейкай шчыліны нейкі скрутак...*

*І вось я стаю ў сваім доме — госць.*

## РЭЧЫ

*Раскопваюць гарадзішча.*

*Выкопваюць рэчы.*

*Вось рэч-рука, вось рэч-нага, вось рэч-моц, вось рэч-улада...*

*Рэчы — апошняе цела людзей, якое жыве найдаўжэй.*

*За рэчы трымаюся, аб рэчы абапіраюся, атрымліваю ў спадчыну рэчы...*

*Рэчамі мераецца мой час, акрэсліваецца мая прастора, без іх я губляюся, без іх я знікаю, без іх я нічога не значу сам.*

*На торжышчы, дзе ўсё набываецца і прадаецца, пытаюся ў рэчаў, як іх завуць.*

*Яны называюць мае імёны.*

## ЗАЦЬМЕННЕ

*Прыставіўшы да вачэй замглёныя шклі-ны, людзі глядзяць угору: цяпер яны бачаць, як сонца ззяе і як зацьміцца сонца...*

*Што, дрэва, што, камень, што, вобла-ка — няўжо мы бачым вас толькі таму, што і вы ў зацьменні?!.*

*А чыстыя сутнасці свету для нас яшчэ ўсё застаюцца закрытымі?!.*

*І мы ні разу ні з чым яшчэ не былі сам-насам?!.*

*...За вёскаю — рэчка, за рэчкаю — гор-ка, за горкаю — поле, на полі — камень, а на тым камені-валуне стаіць-зіхаціць за-латая карона...*

*Ды варта мне толькі зірнуць на яе сва-імі вачыма — усё прападае...*

*Бачу праз перашкоду.*
*Думаю праз перашкоду.*
*Праз перашкоду жыву.*

*І стала сонца зямлёй.*
*І стала зацьменне целам.*

## КРАТЫ

*Як здрадлівы лёд, пад намі правальваецца зямля,*
*самі сабою зрушваюцца са сваіх месцаў нашы бажніцы, астрогі, музеі, крамы...*

*— Не трэба звяртаць на ўсё гэта ўвагі,— нам раяць аднекуль зверху,— гэта капаюць краты свае норы, проста краты...*

*Мы і так не звяртаем даўно ўжо на шмат што ўвагі,*
*нават на тое, што мы ўжо не надта і мы,*
*што мы падкапаны ў саміх сваіх думках, учынках, словах,*
*што — невядома кім — ашуканы,*
*што — невядома як — страцілі грунт...*

*Мы чуем спаднізу штуршкі — быццам там, пад зямлёю, устае на ногі палонны волат,*
*адною сваёю часткай палохаемся і радуемся — другой,*
*адважваемся і марудзім, чакаем і вырашаем, як быць, што цяпер нам рабіць усё-ткі:*

*ці слухаць не тое, што чуем, бачыць не тое, што бачым, казаць не тое, што разумеем,*
*ці напярэймы кратам капаць пад сабой — разам з імі — зямлю.*

# ПАЛЁТ СТРАЛЫ

*Напружваецца цеціва: паўакружнасць лука ўраўнаважваецца паўакружнасцю цецівы.*

*Упарцься, лук!*
*Супрацьдзейнічай, цеціва!*
*Вы ўтрымліваеце ў сабе звышвыйсце: палёт стралы.*

*Я ў хаты ўваходзіў і з хат выходзіў, уваходзіў у гарады і выходзіў з іх — і ўсё адно апынаўся то ў паўакружнасці дня, то ў паўакружнасці ночы, самім сваім існаваннем дзелячы свет надвое і з'ядноўваючы ў адно.*

*Пакуль я жыву, я абкружаны небакраем,*
*пакуль я жыву, не магу дасягнуць небакраю:*
*ён — там, дзе спынюся,*
*ён — там, дзе ўпаду.*

*Жыццё ідзе кругам, вяртаючыся да пачатку,*
*смерць — нацянькі.*

*І ляціць нацянькі страла, вынікаючы безупынна з сябе самое, вызваляючыся ад сябе самое, каб, зрэшты, зрабіцца палётам самім.*

*У завеі — зямля, у завеі — дрэвы,*
*і людзі, якія жылі і якія яшчэ не жылі,— у завеі,*
*і я таксама ў завеі...*

*Дзе яно, мінулае?!.*
*Дзе яна, будучыня?!.*
*Дзе яно, сёння?!.*
*Болей няма на каго наракаць,*
*болей няма каму дзякаваць — за ўсё, што давалася і адымалася, радавала і засмучала,*
*і болей няма каму ведаць, які я: добры альбо благі, брыдкі альбо прыгожы, стары альбо малады...*

*Адступіў ад мяне белы свет, абступіла мяне белае беспрасвеццe.*

## КАРОНА

Уранні карона знайшлася, а ўдзень яе ўкралі.

Яна была залатая — і злыя суседзі зайздросцілі нашай хаце: за што ім даецца гэткае шчасце — яны такія ж, як мы.

Маўчаць платы і вароты.

Перамяшчаюцца ўпотай цені.

Бацькі не знаходзяць ад роспачы месца: і хто б мог падумаць, што за каронай сочаць...

Я пералажу праз плот у суседскі, зарослы травой, падворак, дзе жылі калісьці брат і сястра.

Былі б яны сёння тут — я расказаў бы ім пра сваё няшчасце, якое магло стаць шчасцем,

я расказаў бы ім пра карону, якую не ўпільнаваў.

Але падворак глухі: няма ні сястры, ні брата.

Дзесьці, дзе зараз яны жывуць, таксама няма і мяне для іх.

Брат мае сястру, сястра мае брата, а я маю тое, кім ёсць.

*А ўжо гукаюць-шукаюць мяне бацькі па сядзібе нашай.*

*«Знайшлася другі раз карона,— кажуць яны.— Тая была залатая, а гэтая — медная, але ўсё роўна карона, і зноў на тым самым месцы — у лебядзе... Золата ўкрасці зладзеі ўкралі, а ўкрасці карону саму не здолелі: вось яна...»*



* * *

*Што прымушае нас незаўважна пераходзіць з гадзіну ў гадзіну, з дня ў дзень, з года ў год і не дазваляе спыніцца?*

*Рэчка цячэ — і знаходзіць дарогу да мора,*
*дрэва расце, урастаючы ў час і прастору,*
*і адкрывае ў сабе, жывучы, чалавек неабсяжнасць, дзе свеціць новае сонца і новы сэнс.*

*Нешта глядзіць на мяне маімі вачамі,*
*слухае, што я кажу, маім слыхам,*
*думае пра жыццё маёй думкай...*

*А на драўляным парозе сядзіць нядужы стары чалавек, яму ўжо цяжка выходзіць з хаты і ў хату вяртацца — цела ўвабрала ў сябе свой шлях і стала само парогам: што чалавеку дапамагае, урэшце, пераступіць і праз гэты парог?!.*

*Паспелі зярняты — і адшукалі глебу, а паспявалі — туліліся да сцяблінні.*
*Крычу — адгукаецца рэха.*
*Маўчу — адгукаецца ціша.*
*Заходзіць сонца ў мой сон.*
*І час, як рэльеф невядомай мясціны, сведчыць, дзе ёсць мы і дзе нас няма.*

# МАЛАНКА

*Тады, калі я ўвайшоў у бажніцу і, зачыніўшы дзверы, стаў гутарыць з небам, з неба раптоўна ўпала маланка і раскалола бажніцу надвое.*

*Людзі, якія прыйшлі на світанні, адбудавалі з адной яе палавіны бажніцу світання,*
*а людзі, якія прыйшлі на змярканні, адбудавалі з другой палавіны бажніцу змяркання.*

*— Хадзі да нас,— заклікаюць мяне адны,— гэта ж твая бажніца: ты зноў тут зможаш казаць свае словы да неба...*
*— Хадзі да нас,— пераймаюць мяне другія,— гэта твая бажніца: ты зноўку тут зможаш слухаць, што кажа неба...*

*А я ўсё стаю на тым самым месцы,*
*здранцвелы,*
*уражаны,*
*праяснёны,*
*не маючы мовы, каб гаварыць,—*
*з маланкаю ў сэрцы.*

# СНЕГ

*Такое маўчанне ў снезе,*
*такая далеч,*
*такая бель —*
*што замірае душа: не ўмее яна яшчэ быць такой.*

*Шастае шорсткая асака.*
*Сінеюць самотныя лозы.*
*У вёсцы запальваюцца агні.*

*У снега позірк маіх надзей,*
*у снега маіх летуценняў голас.*

*Снег, ты з бясконцасці? ты з дасканаласці? ты са скону?*

*Усё, што буяла, цвіло, красавала, усё, што стала мінулым, усё, што стала ўспамінам, усё, што вярнуцца назад не можа,— вярнулася ў белы снег.*

*У наваколлі яшчэ адно наваколле,*
*у адвячорку яшчэ адзін адвячорак,*
*у долі яшчэ адна доля:*

*снег.*

*Свет спавядаецца перад снегам.*
*Кранаю далонню снег.*

## *УЗБОЧЧА*

*Побач са мною, мяняючыся на вагах, вандруе мая пракаветная вотчына: ўзбочча.*

*— Хто ты такі? — дапытваецца ў чалавека сфінкс.*

*Адказваюць за чалавека гадзіннікі, вагі, календары, слупы,*
*адказваюць маленькія сонцы, месяцы, зоркі — узнагароды,*
*адказваюць могілкі — край узбочча,*
*а сам чалавек маўчыць.*

*Няма ўнутры слова — слова,*
*няма ўнутры думкі — думкі,*
*няма ўнутры часу — часу,*
*няма ўнутры лёсу — лёсу,*
*няма ўнутры смерці — смерці,*
*і чалавека ўнутры чалавека няма.*

*Сам сабе вагі і тое, што ўзважваецца на вагах, сам сабе мера і тое, што вымяраецца ёй, па лазерным зорным промні ўзыходжу да зоркі і ўзнагародаю маю кожны наступны крок.*

# РЫБІНА

*Заплыўшы ў затоку, лягу-замру між карчоў кашлатых.*

*Будуць закідваць рыбакі ў затоку блёсны, кручкі, запускаць браднікі, бучы, будуць выцягваць рыбакі з затокі падманутых рыб...*

*Старая мудрая рыбіна, я прадчуваю ў сабе чалавека, і разважаю пра сэнс жыцця, і пытаюся ў сэнсу, чаму ў сваім рыбіным целе не можа быць рыбіна чалавекам, і не паддаюся на хітрыкі рыбакоў.*

*Некалі, ужо нежывы, я выплыву на паверхню затокі — і ўсе рыбакі, што ўбачаць мяне, пашкадуюць уголас: авох!..*
*Такая вялікая рыбіна — і прапала!..*
*Такая вялікая рыбіна — і не дасталася аніякому!..*

*І я гэтаксама тады пашкадую пра гэта сэнсам, агульным для рыбін і для людзей.*

## АБСЯГ

*Дакуль дасягае мой слых і зрок — датуль мой абсяг. Ён мае прадаўжэнне, мой поступ, мая заваёва.*

*Я вынаходжу ўсё больш магутныя тэлескопы, усё больш чуйныя гукапрыёмнікі — я ўвесь час пашыраю свой абсяг. Ён ужо займае не толькі зямлю, а велізарныя галактыкі і сусветы.*

*Аднак часам я чую, як на межах майго абсягу перагаворваюцца галасы: «...Небарака, ён яшчэ ўсё на месцы... Ён яшчэ ўсё ніяк не можа пераступіць свой абсяг...»*

## ЛАБАРАТОРЫЯ

*У лабараторыі зачынены шчыльна дзверы і занавешаны вокны — сюды не праходзяць староннія людзі, староннія гукі, старонні час...*

*Тут у гліняных вазонах красуюць ружы,*

*ляжыць на стале наламаны кавалкамі хлеб,*

*плаваюць у вадзе срабрыстыя рыбы,*

*а ў празрыстай шкляной абалонцы стаіць шаравая маланка, нібы паланёны, увесь з суцэльнага вока, звер...*

*У лабараторыі, усе на месцах, знаходзяцца пэўныя людзі.*

*Тут адбываецца бесперастанна адзін і той самы доспед, праводзіцца адзін і той самы эксперымент:*

*ці дастаткова вазоны — вазоны, ці дастаткова ружы — ружы, ці дастаткова рыбы — рыбы, ці дастаткова вада — вада, ці дастаткова маланка — маланка, ці дастаткова хлеб — хлеб, і людзі, якія праводзяць доспед,— ці дастаткова людзі...*

*Яны сумняваюцца ва ўсіх рэчах,*

*яны сумняваюцца ва ўсіх з'явах,*

*яны сумняваюцца ў адчуваннях, у думках і нат у саміх сумненнях,*

*а вынікі доследу настойліва адкрываюць ва ўсім, што ні ёсць тут, адно і тое ж:*

*н і ш т о.*

## *МЯЖА*

*З левага боку — поле, і з правага — поле, а проста — мяжа:*
*на ёй божыя слёзкі, на ёй сівец,*
*і бацька, панурыўшы галаву, стаіць на мяжы з касою.*

*Даўно ўжо стаіць — заржавела яго каса,*
*счарнела касільна,*
*праз скошаную траву прарасла маладая...*

*І чуць ён не чуе, як б'е капытамі зямлю і гучна іржэ на двары буланы,*
*і бачыць не бачыць, як зззяе на небе адразу два месяцы — ветах і маладзік.*

## *ЛУЖЫНЫ*

*Збіраюцца парушэнні.*
*Мяшаюцца поры года.*
*Як дым, па наўколлі паўзе трывога.*

*У лужынах млее вада — а людзі не вераць вадзе,*
*у лужынах грае сонца — а людзі не вераць сонцу,*
*у лужынах плёхкаюцца аблокі — а людзі не вераць аблокам.*
*Яны пазіраюць, куды ўжо зайсці немагчыма,— удалечыню.*

*Там, па дарозе, па лузе, ад лужы да лужы, пасля дажджу, бягуць басаногай чародкаю дзеці, смяюцца, нагамі намацваюць неба, вясёлку, плыты аблок і не баяцца нічога.*

*Гэта было да таго, як выпаў аднаго разу шкляны дождж,*
*гэта было да таго , як павыступалі з зямлі нажы і іголкі,*
*гэта было да таго, як свет стаў раптам дарослым.*

*Абуджаюся і засынаю,*
*а ўсё няпоўны мой сон, усё няпоўнае абуджэнне...*

*А па вуліцы туды-сюды пахаджае, бы штосьці яна шукае, жанчына:*
*у плюшавым каптане, у паркалёвай хустцы, з абломкам сярпа ў руках...*

*Усе на яе азіраюцца,*
*усе ёй здзіўляюцца,*
*усе стараюцца распазнаць, хто яна,*
*і ўсе страшацца, што сапраўды распазнаюць.*

# СТАРЫ ГОРАД

*На ацішэлых падворках, ля гонты і чарапіцы, квітнее ружовы і белы бэз і асвятляе сваім цвіценнем, сваім разуменнем горад, што паглыбляецца ў даўніну.*

*Кашлаты дзядсўнік натоўпіцца каля паркана:*
*кожная лапушына — шаля,*
*кожная лапушына — голас,*
*кожная лапушына — далонь:*
*наноў разважае зялёнае веча, наноў узважвае думнае веча кошт смерці і кошт жыцця...*

*Пакінулі апошнія жыхары свае дамы-мураванкі, свае драўляныя хаты з аканіцамі і ліштвой і ўсё, што мелі, што нажывалі, што памяталі, што снілі, пабралі ў пярэбары, у перасяленне, у новы кут...*

*Ды нехта ўсё роўна сюды вяртаецца неадольна,*
*нешта ўсё роўна тут, быццам калісь, жыве:*
*тут раптам зазвоняць званы трывожна,*
*зацокаюць раптам падковы па бруку,*
*раптам дзіця заплача,*
*раптам некага нехта пакліча, і той адгукнецца ў адказ...*

*Тут пласт на пласце, на падмурку — падмурак.*
*Тут свае таямніцы, свой радавод, свой лад.*
*Тут нешта тоіцца, нешта хаваецца, нешта ўхіляецца ад разгляду...*

*Падводзіцца да старога горада вузкакалейка.*
*Па старым горадзе ходзяць узброеныя патрулі.*



*АДЛІГА*

*Жоўтыя ліхтары.*
*Туман.*
*Гракаюць гракі ў парку.*
*І дрэвы гатовы паверыць, што ўжо не будзе зімы.*

*Нешта скранулася ў наваколлі, нешта адтала.*
*І намагацца ўжо дужа не трэба,*
*і засцерагацца дужа не трэба,*
*сталі спрыяць акалічнасці неспадзявана,*
*зрабілася ўсё бліжэй,*
*зрабілася ўсё прасцей,*
*жыццё пачало атрымлівацца само сабою.*

*Пятая пара года — адліга. Што забіралі ўсе іншыя поры, яна вяртае:*
*і зноў магчыма сустрэча,*
*і зноў магчымае шчасце,*
*і зноў магчымая неўміручасць.*

*Распаліся жорсткія сковы, што замацоўвалі ўсіх на адным і тым самым месцы, у адных і тых самых паставах — і пачалі адкрывацца нанова, як скарбы, людзі.*

*Высачы момант — і азірніся, і ў гэты кароткі прамежак ты ўбачыш сябе, што не паспеў яшчэ стаць мінулым.*

*Гукаюць нейчыя галасы.*
*Кранаюць нейчыя лёсы.*
*Адліга.*
*Туман.*
*Жоўтыя ліхтары.*



# РАСКОЛІНА

*Дарога, якая мяне вяла, павярнулася папярок і стала расколінай.*

*Калі не бяру яе пад увагу — яе нібыта нідзе няма,*
*калі намерваюся перабрацца на той, на другі, на адрынуты бок жыцця — яна пашыраецца на ўсё наваколле.*

*Я пераходжу трыдзевяць зямель,*
*адольваю рэкі, пустыні, горы,*
*ды сутнасць у тым безумоўным, у тым канчатковым, у тым адным кроку, які мне дазволіць п е р а с т у п і ц ь...*

*— Скокні,— мне раіць адзін мой сябрук,— і ты пераскочыш, мажліва, на той бок расколіны.*
*— Спыніся,— стрымлівае другі,— і, мажліва, яна сама ад цябе адступіць.*

*Настае ноч — сябрукі засынаюць.*
*Сціхае вецер.*
*Сутоняцца хаты, дрэвы, платы.*

*А пад зямлёю, унізе, вясёлая музыка грае,*
*а ўверсе, па-над зямлёю, зораць вогненныя масты.*

* * *

*Прымаю тое, што ёсць, і не прымаю таго, што ёсць.*

*Перашкодаю, што ўва мне, наштурхоўваюся на перашкоду, што прада мною.*

*А за маімі плячамі стаіць мая неадольная абарона — смерць*

*і кажа: змагайся,*

*і кажа: перамагай.*

*Што можа ўва мне паражацца, бярэ паражэнне.*

*Бярэ, што можа ўва мне памерці, смерць.*

*Знаходжу выйсце ў бязвыйсці.*

*Пакуль не шукаю ратунку — не маю страты.*

*Пакуль не турбуюся аб сабе — магутнейшы за сябе.*

*П'ю з кубка нябёсаў нектар, п'ю з кубка зямлі атруту.*

*Зычу сабе асалоды і зычу сабе пакуты, зычу дабра і зычу таксама зла.*

*А прад маімі вачамі цвіце і хаваецца за сябе самое, і разнастайваецца жыццё — мая неадольная перашкода —*

*і кажа: змагайся,*

*і кажа: перамагай.*

## ЧАРАВІКІ

*Мы ўцяклі: адзін са сваёй рэчаіснасці, другі — са сваёй, а ў часе ўцёкаў сустрэліся.*

*— Давай памяняемся чаравікамі,— прапануе мне мой хаўруснік. Калі нас будуць лавіць, то зловяць якраз не таго, каго хочуць.*

*Ён абувае мае чаравікі, а я — яго, і мы, хто-куды, разыходзімся.*

*У жоўтай глеўкай зямлі застаюцца сляды ад маіх чаравікаў і ад яго чаравікаў.*

*Ні цемра, ні светлыня.*

*Стаіць нерухомая постаць часу.*

*На небасхіле ўспыхваюць бліскаўкі небяспекі.*

*За мной — крок у крок — ідуць чужыя сляды.*

*Я не магу ад іх анідзе падзецца.*

*Куды нас імкнуць уцёкі?!.*

*Ён ловіць мяне, я — яго.*

## *СТУДНЯ*

*Прагну вады.*

*Але каля студні сядзіць вартаўнік і не дае мне напіцца.*

*Ён зазірае ў студню і кажа: «Дзівіся!..» Студня глыбокая-глыбачэзная, і светлая ў ёй вада, і яна — мне здаецца — уздрыгвае, быццам сэрца, і падымаецца да паверхні.*

*— У ёй відаць твая смага,— кажа мне вартаўнік.— Як толькі яна ў табе дойдзе да самага краю, усё пераменіцца ўвачавідкі: вада перальецца праз верх, і ты тады зможаш напіцца ўволю, але дагэтуль — не...*

*Я веру вартаўніку,*
*я веру студні,*
*я веру свайму нераспазнанаму прызначэнню —*
*і гатовы трываць, колькі трэба трываць,*
*і гатовы гарэць на нябачным вогнішчы смагі, колькі трэба гарэць, каб споўніць, што мушу і што магу...*

*Над студняй стаю, і сам я падобны да дзіўнай студні, што ўсёю сваёю істотаю прагне вады, і глыбінёю апошняю — смагі.*

## ДАЛЕЧЫНЯ

*Далечыня падступае і адступае, і ўсюды замест яе застаю сутонлівую зямлю, засяроджаную ваду, шурпатыя дрэвы.*

*Я ў іх дапытваюся пра далечыню.*

*Кажа зямля: гэта — мой слых.*
*Кажа вада: гэта — мой зрок.*
*Кажуць дрэвы: гэта — наша дыханне.*

*Я паварочваюся наўкола.*
*Я магу быць адначасова толькі тут, дзе стаю, дзе ўжо ёсць.*

*Далечыня — мой страчаны рай: ён адлюстроўваецца снамі і міражамі.*

*Я разаслаў удалечыню па розных кірунках стрэлы, а стрэлы вяртаюцца, цэлячыся ў мяне.*

## *ДАРЭШТЫ*

*У левую руку мне даюць паражэнне, але ў правую я паспяваю ўзяць перамогу.*

*Тады ў правую руку мне даюць радасць, але я працягваю левую руку і бяру скруху...*

*У мяне пытаюцца: хто ты? — і хочуць спыніць.*

*Я не адказваю і не спыняюся.*

*Засяроджанаю душою я намацваю дрогкую лінію сэнсу, па якой мушу ісці дарэшты.*

## АПОШНІ ЧАС

*Зоркі перакульваюцца і выліваюць на нашы палеткі смалу і серу,*
*перуны выбухаюць над нашымі гарадамі,*
*хістаецца сонца...*

*Нам боязна,*
*нам неспакойна,*
*мы яшчэ шчыльней прыпадаем да зямлі,*
*яшчэ мацней учапервяемся ў нашы заняткі і рэчы*
*і не адважваемся паглядзець вышэй за сябе*
*і зразумець, што ратунак перашкаджае...*

*А сонца расхіствае нашы дні,*
*а зоркі ўрываюцца ў нашы развагі,*
*а перуны заглушаюць нашу размову,*

*і ўсё настае, і ўсё ніяк не можа настаць той час, той адзіны час, які для нас існуе с а п р а ў д ы,—апошні.*

## *ШЭРАНЬ*

*Я чую шмат слоў.*

*Бачу мноства людзей.*

*Усе яны кажуць, што трэба адрозніваць няшчырасць ад шчырасці, уяўнасць ад праўды, намер ад здзяйснення, клопат пра аднаго сябе ад клопату пра ўсіх іншых...*

*Але цяпер зіма.*

*І словы, і людзі, і ўсё наваколле захутаны ў шэрань.*

*І сухадрэвіны не адрозніваюцца ад дрэў.*

## *МЭТА*

*Перада мной паўстаюць аснежаныя горы, цякуць стромістыя рэкі, рассцілаюцца пагібельныя балоты... —*
*Колькі я іх адолеў?!.*
*Колькі мушу адольваць зноў?!.*
*І няўжо на самой справе м у ш у ?!.*

*Я спрабую паразумецца са сваімі жаданнямі, пераправерыць мэту, удакладніць шлях —*
*і заўважаю, як неўпрыкмет, паступова пачынае мяняцца воблік мясціны,*
*як, у залежнасці ад маіх жаданняў, ад мэты, якую я выбіраю, перастаўляюцца горы, знікаюць балоты, паварочваюцца рэкі...*

*...Я — мэта, што тоесна перашкодзе.*

ДРЭВЫ

*Блукаю па веснавых гарадскіх завулках:*
*спыняюся каля кожнай сядзібы,*
*вітаю кожнае дрэва...*

*Дрэвы — страчаныя мае браты,*
*дрэвы — страчаныя мае сёстры.*

*Якія магілы ляглі між намі?*
*Якія адлегласці і небасхілы?*

*Нічога не ўтойваюць дрэвы: як загаворыць да іх наваколле, так яны адгукнуцца: улетку — па-летняму, зімой — па-зімоваму і па-веснавому — вясной.*

*Іх загароджваюць людзі, прысвойваюць сабе людзі, але яны не належаць нікому, належаць ягады і садавіна, належыць драўніна, а дрэвы — не...*

*Не перастаю ўсё нанова вяртацца ў наступныя вёсны,*
*не перастаю ўсё нанова пытацца, што ведаюць дрэвы пра наш, чалавечы, лёс...*

*Прыходзіць у сон мой балесны маці і дастае з-за пазухі яблык: «Калі будзеш есці — ён будзе горкі, а калі з'есца — стане салодкі, у ім р а з у м е н н е: бяры, каштуй...»*

## ЗДАРЭННІ

*З неба на мяне падаюць вогненныя жарыны, манеты старажытных княстваў, жабы і рыбіны, рознакаляровыя камяні,*

*зямля пад маімі нагамі перакідваецца то ў багну, то ў пясчаную пустэльню, то ў могілкі дыназаўраў,*

*а калі мы праходзім паўз вёскі, то на платы ўскокваюць галасістыя пеўні, а з-пад платоў да мяне сігаюць куслівыя сабакі і гусакі.*

*Здараецца, я смяюся ад захаплення, здараецца, плачу ад болю і крыўды. Але ззаду за мною неадступна рухаюцца два мае пастухі — манекены, якія бароняць мяне ад незлічоных неспадзяванак.*

*— Мы можам памяняцца месцамі,— прапануюць мне манекены,— і тады нічога не будзе здарацца.*

*Я адмаўляюся.*

*Я па-ранейшаму ўсё сустракаю першы, і па-ранейшаму свет размаўляе са мною на мове здарэнняў.*

*РОЛІ*

*Той, хто ідзе па гэтай дарозе, выконвае ролю, якую дае дарога:*

*воін вае,*

*музыка грае,*

*купец гандлюе,*

*лепіць гаршкі ганчар...*

*Але калі прыходзяць яны ў канец, канчаюцца іхнія ролі: воін ужо не воін, музыка ўжо не музыка, ганчар ужо не ганчар і не купец — купец, а ўсё гэта толькі ўмовы, толькі няпростасці той дарогі, якую яны — усе па-свойму — прайшлі.*

*Хіба, каб адолець дарогу спаўна, канчаткова, дарэшты, трэба спаткнуцца аб кожны камень, зваліцца ў кожную яму, патрапіць у кожны след?!.*

*Хіба трэба кожнаму быць адразу і гэтым, і тым, і вось тым, і вось гэтым?!.*

*Альбо наогул не быць нікім?!.*

*Нічога нікому не хоча тлумачыць дарога, зноў раздае яна новыя ролі, зноў запалоньвае ўсіх сабой...*

*Зноў будзе музыка натхняцца, што ён музыка,*

*купец — ганарыцца, што ён купец,*

*воін — даказваць, што ён воін,*

*ганчар — пераконвацца, што ён ганчар...*

*Зноў яны будуць здзіўляцца, што людзі — людзі і што неўзабаве — канец.*

*ПАДЗЕЛ*

*Я аддзяліў слодыч ад горычы, асалоду ад пакуты, рай ад пекла —*

*і кветкі сталі мяне паіць толькі салодкім нектарам, а дрэвы частаваць толькі райскімі яблыкамі.*

*Але чым далей, тым з усё большай трывогай я ўслухоўваюся ў тую другую палову падзеленага мною свету.*

*«Яшчэ не позна,— мне шэпчуць нейчыя галасы,— выпі кубак горычы, якою перапоўніліся кветкі,— і яна ацэліць цябе, сяступі ў пекла — і яно цябе выратуе...»*

*Я вагаюся, тулюся ў сваю палову і не адважваюся зразумець, што я ўжо асуджаны.*

## АПОРА

*Нам няма на што абаперціся.*

*Крышталі пэўнасці, на якія мы ўскладалі такія вялікія спадзяванні, нечакана пераўтвараюцца ў ластавак і шпакоў і імкліва адлятаюць ад нас.*

*— У вырай,— збянтэжана разводзім мы рукамі.*

*І мы нічога не можам зрабіць з гэтым чэспасціжным выраем,*
*не можам яму запярэчыць.*

*Мы жывём у свеце, дзе вечар змяняецца раніцай, вясна — восенню, жыццё — смерцю,*
*дзе час рухаецца ў адзін бок,*
*дзе адзіная адвечна ўстойлівая апора — гэта страчванне яе:*
*в ы р а й.*

## СІНІ ТУМАН

Ізноў вясна.

Я стаю каля сваёй хаты.

Ціха ў дварах: не бразгаюць вёдры, не размаўляюць людзі, не брэшуць сабакі і не сакочуць куры.

А ў канцы вуліцы, быццам спусціліся на зямлю нябёсы, сінее туман:

у ім я бачу аднавяскоўцаў, бачу сваіх сяброў, бачу сябе самога...

Я думаю — не надумваюся, і няма ў каго папытацца, як гэта так адбылося, што я не з усімі, што я падзяліўся надвое, што я не ў вясне і ў вясне...

Тужыць і радуецца маё сэрца.

Цвіце ў канцы вуліцы сіні туман.

— Што ты скажаш цяпер? — пытаюцца ў мяне камяні, калі мяне спасцігае якая няўдача, калі здараецца са мною якая неспадзяванка.

Яны пытаюцца, яны цешацца, яны ганарацца сабой, яны цяпер адчуваюць сябе мудрэйшымі за ўсе мае аргументы, якія я ім прыводзіў, за ўсе мае ўчынкі, якімі даводзіў, што быць людзьмі лепш...

Я пастаянна казаў, што меў,
я пастаянна кажу, што маю,
нічога не ўтойваючы,
нічога не пакідаючы на чорны дзень;
мае канчатковыя аргументы тут — у кожнай хвіліне, у кожным дні, ва ўсім маім існаванні.

А камяні мяркуюць, што я жабрак, што я жыўлюся чужым, што нічога свайго не маю...
Яны закрываюцца ад мяне:
у іхняй закрытасці — іхняя моц,
у іхняй закрытасці — іх каменнасць.

Я вучу камяні быць людзьмі.
Я іх прасвятляю сабою.
Дзень, калі яны адкрываюцца мне,— мой скарб.
Дзень, калі яны закрываюцца ад мяне,— чорны.

## *РАЗАМ З ТРАВОЙ*

*Лёгшы ў траву, забываюся, як мяне зваць і навошта я ў гэтым свеце.*

*Шчыльна мяне абступае трава.*

*Гэта — наша сустрэча, гэта — наша паразуменне: колькі разоў я намерваўся, але ні разу дагэтуль яшчэ не сустрэўся з травой, усё замінала нешта, усё нешта аказвалася бліжэй.*

*Чую: здалечыні мяне клічуць-гукаюць клопаты і абавязкі, якім прызначаў я на сёння сустрэчу.*

*Я голасу не падаю, я ляжу ў зялёнай траве і ўпершыню разумею, што я адначасна ёсць і не ёсць, што я адначасна прысутны й адсутны, усюды і тут...*

*Быццам воблака, мяняючыся на вачах, кудысьці сплывае маё аблічча, якое ўмела так шмат: гневацца і разважаць, засяроджвацца і ўсміхацца, прасіць прабачэння і пагарджаць, нідзе не знаходзіць сабе прытулку і ўпісвацца ў розныя асяродкі.*

*Дыхаю разам з травой;*

*слухаю разам з травой, як наплывае ціша;*

*разам з травой назіраю, як сціраецца-растае ў чыстым небе той цень, тое воблачка, тая кропка, якая ўсё парушала сабой і ўсё дзяліла надвое...*

*І няма ў мяне сёння іншага клопату, іншага абавязку, як проста быць — разам з травой.*



## ПАВЕРХНЯ

*Паверхня раскрэслена на трохкутнікі, ромбы, кругі...*

*Каб трапіць углыбіню, я набіраю паветра ў грудзі і бяру ў рукі камень.*

*Але глыбіня ўхіляецца ад мяне. Самае большае, што я магу дасягнуць,— гэта новай паверхні: дна.*

*Няўжо такая мая ўласцівасць, такі мой знак: усё, што асвойтваю, усё, што кранаю,— пераўтвараць у паверхню?!.*

*Жыву на паверхні зямлі, і вады, і агню, і паветра,*
*і цела — паверхня майго жыцця, і розум — паверхня цела.*

*Паверхняю — разважаю, паверхняю — разумею, паверхняю — мераю глыбіню...*

*Ледзьве жывы, выбіраюся я на бераг.*
*Мяне абступаюць знаёмыя трохкутнікі, ромбы, кругі...*
*Цяпер я ў бяспецы, цяпер я дома...*
*Але вагаецца ўва мне неспасціжная глыбіня і прымушае вагацца паверхню.*

## ЧОРНЫ АБРАЗ

*У маіх руках абраз, на якім няма ніякай выявы, ніякіх рысаў,—*
*чорны драўляны абраз.*

*Я трымаю яго перад сабою і разам з ім павольна ўзлятаю па-над падворкамі, па-над жоўтымі асеннімі дрэвамі, па-над прасторліваю зямлёй...*

*Я ведаю, на што здатны мае мажлівасці — яны маюць свой колер, свае абліччы і свае межы, але мяжа маёй немажлівасці, дзе яна?!.*
*І ці ёсць яна?!.*

*Чорны абраз.*
*І нямыя прадонні космасу, дзе гараць, не згараючы, сонцы.*

## НА ДРУГІ ГОД ВАЙНЫ

*На другі год вайны не вырасла жыта на полі, не вырасла бульба, а выраслі лозы.*

*Узяўся я дзерці з лозаў кару — а яны з жалеза,*
*узяўся сякерачю секчы лозы — стала з іх сыпацца на зямлю жалезнае зерне,*
*узяўся выкопваць лозы рыдлёўкай — стала выкопвацца з-пад каранёў жалезная бульба.*

*Хто будзе есці жалезнае зерне?*
*Хто будзе есці жалезную бульбу?*

*Кажа бабуля: вайна.*

*А я спрабую сам разгрызці тыя зярняты,*
*спрабую сам угрызці бульбіны тыя,*
*каб самому зрабіцца жалезным, нібы вайна, і павыдзіраць жалезныя лозы з поля.*

## ЗМЕІ

*Бацька разворвае поле.*

*Па баразне, ўслед за плугам, пхнуцца гурмою куры і дзяўбуць дажджавых чарвякоў.*

*Іх шмат у раллі. Але сярод іх вылучаюцца два велізарныя чарвякі, ад якіх у спалоху куры ўцякаюць.*

*Ды гэта не чарвякі, а бялёсыя слізкія змеі. Яны сыкаюць — джалы выстромліваюцца з іхніх пашчаў.*

*З копашкаю ў руках да іх бяжыць Тэкля. Шпаркімі ўзмахамі яна сячэ-забівае адну змяю, але другая тым часам кудысьці знікае...*

*— Там, пад зямлёю, у іх гняздо, — паказвае копашкай Тэкля.*

*А бацька варочае ўжо каня з таго канца поля ў гэты канец*

*і новаю баразною заворвае, што ўзараў перад гэтым —*

*і дажджавых чарвякоў, і тую змяю, якую Тэкля пасекла, і тую, якая схавалася пад зямлю.*

## СЛЯДЫ

— Ты ўжо мінуў,— гаворыць мне вечар.

— Ты яшчэ не настаў,— гаворыць мне ранак.

Я мінаю і настаю, і неадступна мае сляды цягнуцца ўслед за мною.

Ці ёсць паміж днямі прадонні, а паміж хвілямі — ямы?!.

Калі я спыняюся — паміраю,

калі ажываю — перамяшчаюся па паверхні, і час адлучае мяне ад мяне, і месцы перамяшчэння ўсё нешта маюць на ўвазе...

Ты зноў узыходзіш, сонца!..

Ты зноў паміраеш, ветах!..

Такі ў чалавека клопат, такое выйсце:

сабою — дапытвацца,

сабою — адказваць,

сабой — спалучаць пачатак і завяршэнне.

Дзівіцца, выйшаўшы з хаты, стары мой бацька на дрэвы — якія цвітуць...

На вуліцы хлапчаня клянецца перад сябрамі: каб мне не сысці з таго месца...

Я ведаю шмат, не ведаю аднаго.
Мой цень пільнуе мяне.
Змяркаецца ранак, світае вечар.
І набракаюць крывёю мае сляды.

## ЗБРОЯ

Настае дзень, калі я бяру меч і бяру шчыт...

Цяпер я ўзброены,
цяпер я здольны абараняцца і нападаць,
і тыя людзі, якія ўчора штурхалі мяне локцямі, цяпер пачціва вітаюць мяне.

З цягам часу меч урастае ў маю правую руку, шчыт — у левую, і я адчуваю іх як сваё цела.

Але... Але няўжо яны — гэта я, няўжо да самага скону я мушу рабіць тое, што раблю цяпер,— укладацца ў зброю?!.

І тады паступова я пачынаю адымаць яе ад сябе — вызваляцца.
Не адзін тыдзень, пэўна, міне, перш чым гэта адбудзецца: надта шчыльна зраслася зброя з маім целам, з маёй сутнасцю.

Аднак, перамогшы слабасць, я мушу перамагчы і сілу.

## СПАДЧЫНА

*Калі яна цяжар — тады яна крылы,*
*калі яна вярэдзіць — тады яна гоіць,*
*калі яна знясільвае — тады дае сілу...*

*— Аднак з гэтаю ношкаю ты не здолееш уступіць на неба,— перасцерагае мяне першы анёл.*
*— А без яе зноў упадзеш у мінулае,— перасцерагае другі.*

*Я іх абодвух разумею.*
*Пісягі і апёкі на маім целе.*
*Віхуры клічуць мяне падужацца.*
*Зямля — частка мяне.*
*І агністыя мечы анёлаў пільна ўзіраюцца ў маю душу.*

## ПЛЫНЬ

*Ноччу прыйшла вада — і аддзяліла цела ад цела, слова ад слова, сушу ад сушы, жытло ад жытла,*

*і ператварыла вуліцы ў рэкі.*

*Тулячыся да платоў, мы ідзём і ідзём уздоўж плыні, і адыходзім кудысьці далёка, дзе плынь заміраe на месцы, а мы пачынаем плысці, як дагэтуль яна сама,—*

*усё незваротней, усё непазбежней, хацяі адзінае, што нам трэба, дык гэта — перайсці на той бок.*

# *ПЛАНЕТА МЕТАМАРФОЗАЎ*

*Зайшло сонца — і ў небе ўзышла тая загадкавая планета, якая займае наш розум,*
*якая прыцягвае нашы пагляды,—*
*планета метамарфозаў.*

*Па прыхаманлівых нейкіх законах, нібыта яна выпраменьвае свае ўспаміны ці сны, на ёй час ад часу ўзнікаюць постаці наскіх, знаёмых істотаў:*
*льва,*
*чалавека,*
*птаха,*
*быка.*

*Што яны азначаюць?*
*Чаму іх столькі?*
*Можа, яны нешта сведчаць пра нас, што невядома і нам самім?*

*Мы нацэльваем на тую планету свае тэлескопы,*
*шлём да яе сваіх астранаўтаў —*
*і зблізку, адлегласць адолеўшы, расчароўваемся-распазнаём:*
*гэта не бык — а зямля,*
*гэта агонь — а не леў,*
*гэта не птах — а паветра,*
*не чалавек — а вада.*

*Але запаноўвае ноч — і знікае асвойтаная адлегласць, і ў нашым няўзброеным зроку зноўку ўзнікаюць яны — постаці льва, чалавека, быка і птаха, змушаючы нас разумець больш, чым бачым, і бачыць болей, чым разумеем цяпер.*



*Гавару, услухоўваючыся ў саму гаворку: што ў ёй?!.*

*Гляджу, углядаючыся ў само ўглядане: што ў ім?!.*

*Думаю, удумваючыся ў самі думкі: што ў іх?!.*

*Побач са мной, леваруч, ступае драпежны звер, праваруч — непахібны робат,*
*наперадзе ззяе сонца,*
*ззаду чарнее цень.*

*Чым больш я адзіны, тым больш усіхні,*
*чым больш непаўторны, тым больш увабраў у сябе паўтораў,*
*чым больш неўміручы, тым болей адкрыты смерці,*
*чым больш старажытны, тым больш малады.*

*Мерае чалавека меркай адною зямля, адваротнаю — неба, і меркай двайною сам сябе чалавек.*

*Звер зыркае на мяне сваім грозным вокам, а робат адну за адной называе лічбы, то адымаючы ад мяне, то прыкладаючы да мяне суму звера і суму сябе...*

*Я — слова, што вучыцца гаварыць,*
*думка — што вучыцца думаць,*
*жыццё — што вучыцца жыць.*

## ЯНЫ

*Людзі, што мне сустрэліся ўчора і пазаўчора і што сустракаюцца сёння...— уваходзяць яны ў мой лёс, быццам яны гэта я таксама.*

*Нават калі я адводжу вочы — яны ўсё адно глядзяць на мяне,*

*нават калі не растульваю вуснаў — яны ўсё адно ўступаюць са мною ў размову.*

*Вось яны, вось: то хаваюцца ў цёмныя нетры майго забыцця, то аб'яўляюцца на белым полі маёй увагі.*

*Але чаму з разнастайнага мноства — я н ы?*

*Чаму менавіта — я н ы?*

## *У ЛЕСЕ*

*У лесе дрэвы і людзі: той, хто стаіць нерухома на месцы,— дрэвы, той, хто блукае,— людзі.*

*Збочвае поле ў лес, і збочвае ў лес лагчына.*

*Быццам заклятае дрэва, ляжыць каля ног маіх цень.*

*Сцежкі, якія ўва мне, упадаюць у сцежкі, якія ў лесе.*

*Каб адшукацца, трэба спярша згубіцца.*

*А таямніца ў самай сярэдзіне нетраў трымае відушчы ліхтар.*

*Куды б ні ішоў — я вяду за сабою лес.*

*Дзе б я ні быў — застаюся ў лесе.*

## АТАВА

*Кашу траву, якую касіў перад гэтым,— атаву.*

*Дыхае восень.*

*Туманіцца лета.*

*Кранае званы далячыняў туга.*

*Незаўважна расце трава, незаўважна мяняюцца поры года.*

*З аднаго канца лугавіны скіроўваюся ў другі канец лугавіны.*

*Час, як траву, мяне росціць і час, як траву, мяне косіць, і смерць становіцца нараджэннем, якое нічога не памятае пра тое, што было перад ім.*

*Спяшайся расці, трава,*

*спяшайся, адна палова імгнення, злучыцца з другою паловай,—*

*каб спраўдзіўся некалі цуд, каб паспелі ўсе нарадзіцца і не паспела смерць анікога скасіць касой.*

## З КЛЮЧОМ У РУЦЭ

*— Ты не ўсё яшчэ ўзяў з сабою,— кажа мне стражнік, калі я спрабую выйсці з падземнага замка.*

*Я вяртаюся і агледаю яшчэ раз рэчы, сабраныя тут.*

*Я не ведаю іхняга сэнсу і прызначэння і таму наўздагад бяру сабе тое, што нагадвае мне пэўным чынам мяне самога: бронзавага чалавечка з ключом у руцэ.*

*Аднак і на гэты раз мне не ўдаецца выйсці.*

*— Ты не ўсё яшчэ тут пакінуў,— кажа мне стражнік, але не тлумачыць — што.*

*І зноў я вяртаюся ў залы падземнага замка, дзе я і вязень, і валадар, і стаўлю свайго чалавечка на тое месца, дзе ён стаяў.*

*Што мушу я ўзяць у падземным замку і што ў ім пакінуць?*

*Я бяру й пакідаю, пакідаю й бяру — і апынаюся кожны раз то ў нястачы, то ў лішку.*

# *ГЛІНЯНЫЯ ЧАЛАВЕЧКІ*

*Зайшоўшы на загуменне, накопваю гліны, мяшаю яе са сваёю слінаю і ляплю, што хоча ляпіцца само,— чалавечкаў.*

*Гэта — сусед Іван,*
*гэта — сусед Багдан,*
*гэта — бацька,*
*а гэта — маці,*
*а гэта — я...*

*Прыходзіць на загуменне сусед Іван, прыходзіць сусед Багдан, прыходзіць бацька, прыходзіць маці і дзіву даюцца, што я іх так добра зляпіў.*

*— Аднак мы самі,— кажуць яны,— жывыя, а вось я н ы нежывыя, і калі ты іх не ажывіш, мы гэтаксама з часам станем такія ж, як і я н ы...*

*Я стаўлю сваіх чалавечкаў на ногі,*
*адхукваю іх, бы яны закляклі,*
*упрошваю іх, каб яны ажылі...*

*Але не чуюць мяне гліняныя чалавечкі і не намерваюцца ажываць.*

*Пойдуць суседзі, пойдуць бацькі, а я па-ранейшаму буду сядзець на тым загумённі,*
*і думаць,*
*і мучыцца,*
*і шкадаваць, нашто я наогул звязваўся з глінай.*



*Вобразы вабяць услед за сабой, але памкнуся за імі — і іх растворыць прастора: магчыма, яны проста птушкі, якія адводзяць таго, хто ідзе, ад сваіх затоеных гнёздаў.*

*Заблытаны сцежкі, якія вядуць і на ўсход, і на захад, але на кожным кроку, усюды, ад іх падымаецца стромкая вышыня і, падымаючыся над сабою, становіцца розумам цела, і, падымаючыся над сабою, розум становіцца ўсёразуменнем, якое, нібы ваданосныя жылы, сабой насычае і жывіць кожнае слова і кожны крок.*

*Чалавек — гэта два чалавекі, як дзве далоні, што лепяць суладна снежку ці перакідваюць, каб утрымаць, жарыну: адзін з іх — пачатак, другі — завяршэнне, адзін з іх — выток, і другі — суток, адзін з іх — прычына, другі з іх — вынік, адзін з іх — пытанне, другі — адказ, а паміж імі цякуць, вынікаючы з іх і ўпадаючы ў іх, сусветы.*

*Усё, што кранае мяне, падобнае на мяне.*

*Не скончаны дзень тварэння: зноўку і зноў вылеплівае чалавек сваю лепшую долю.*

*Дзеліць мяне прастора, з'ядноўвае час.*

*Калі чалавек сустрэнецца з чалавекам?*

*У бездані памяці мгліцца бяссонны ліхтар.*

*Пачакай, памарудзь, адпусці жаданне — і ты перастанеш быць часткай, нацэленай супраць усіх,*

*і вернуцца да цябе тыя птушкі, якія не ловяцца, калі іх ловіш, якія хаваюцца, калі іх шукаеш, і ты пачуеш: у кожнай птушкі — твой голас, і ўбачыш: у кожнай птушкі — твой твар.*



## *КВАНТЭМЫ*



*руіны запарушваюцца*
*рунь*
*уваскрашае руны*
*неба блізка*



*сам-насам з незавершанасцю*
*што*
*пярэчыць перамогам*
*бездань ззаду*



*апрануты ў прамень*
*ніжэй зямлі*
*жаданняў джалы*





*твар вераду*
*ўзіраецца*
*углыб*
*не маю месца*
*вернутая вера*





*у нетрах сэрца*
*горкае карэнне*
*цень цішыні*



*дапытваецца смага*
*напрасткі*
*у пекле існы*
*парастак зялёны*



*ахрышчвае палёт*
*па-за сабой*
*адшукваюся*
*леташнія гнёзды*



*адлюстраванні множацца*
*мажлівы*
*серп на мяжы*



*у тоесамнай постаці*
*уздоўж*
*пільнуе агароджа*
*тут адсутны*



*кірункі скрыжаваныя*
*у скон*
*прысвечаны*
*адрозніваю зоры*



*пярэчаць рэчы*
*гіну ў гліну*
*твар*
*навыварат*



*жыўлюся немажлівасцю*
*цвікі*
*нацэльваюцца*
*ўпартая апора*



*вясткуюць папярэднікі*
*услед*
*настойліваму целу*
*ветах свеціць*



*ахвяры абуджаюцца*
*нажы*
*з'ядаюцца іржою*
*чую рэха*
*хлеб аржаны*



*у горадзе радовішчы*
*дзе родзіч*
*дзіравы посуд*
*пасткі ў пустаце*



*над межамі імжа*
*спажытак кажа*
*каменням мякка*
*манекен чужы*



*сны маюць вочы*
*ў чэрапе пячор*
*нераспазнаны прашчур*
*сёння позна*



*празрысты цень*
*праз цела нацянькі*
*страла спявае*



*сцізорыку карціць*
*з крыніцы прысак*
*збяруцца ў раз*
*абразы*
*месца досыць*



*адольваю адлегласці*
*цаны*
*сабе не маю*
*у сцяне каменне*



*развязваецца вузел*
*вязні зла*
*у помсце спеюць*
*месяц у лязе*



*даведваюся кошты*
*на сваім*
*настойваюць паўторы*
*вечны лішак*



*над гарадамі воблакі*
*ў зямлі*
*блукаюць норы*
*раптам старажытны*

❦ ❦ ❦

*варочаюцца жорны*
*зноў малы*
*цярплю цяпер*
*вымольваецца выйсце*



❦ ❦ ❦

*прадбачыць сон*
*час іншыцца*
*ўначы*
*ў насення вочы*

❦ ❦ ❦

*палічаны спачатку*
*чалавек*
*насупраць частак*
*частае аблічча*

❦ ❦ ❦

*у каменя імя*
*знікае замак*
*імгненні — вокны*
*раюся з травой*



*загойваюцца сны*
*ураздарож*
*сустрэчы вабяць*
*вострая самота*



*у садзе дрэвы*
*дзверы дзесьці*
*дзеці*
*шукаюць асалоду*
*звер услед*



*праз шкло павелічальнае*
*нябыт*
*глядзіць людзьмі*
*падобныя адбіткі*



*у смерці мера*
*свечка растае*
*старое веча*





*прадонне з крыку*
*ноч у дні —*
*крумкач*
*трымаецца ў руцэ*
*галінка лёсу*



*маўчанне*
*мучыць*
*меч*
*ерэтыкі*
*ратуюць веру*
*ад шчыта пачатак*

## ПУНКЦІРЫ



*У вечаровым аўтобусе*
*чуваць урыўкі людскіх размоў...*
*Зрэшты, усе размовы*
*урыўкі чагосьці.*



*Кружацца ўвышыні буслы —*
*неўзабаве вырай.*
*Пазіраем на іх —*
*і паглядам адлюстраваным*
*бачым сябе.*



*Наведваюся ў мясціны,*
*дзе ўжо некалі быў,*
*і не ведаю, як растлумачыць*
*дрэвам, людзям, сабе самому,*
*што ўжо мяне двое,*
*і не ведаю, чым запоўніць*
*прагал паміж мною гэтым і тым.*



*Не сплю. Адліжна. Поле*
*туманіцца ў акне.*
*Міжчассе — ў наваколлі.*
*Міжчассе — ува мне.*



*Ты адчуваеш кроўна*
*душу сваіх патрэб.*
*А вагам усё роўна,*
*што — камень, а што — хлеб.*



*Нас рухае нямы*
*кругазварот нязморны.*
*Ў прадчассі плёну, мы —*
*нібы зярняты ў жорнах.*



*Сваёй дарозе мера —*
*спрабуй, здзяйсняй, вяршы!..*
*У будучыню дзверы*
*не ў часе, а ў душы.*



*Надакучыла хадзіць паводле сваёй хады,*
*надакучыла ездзіць паводле правіл*
*дарожнага руху,*
*надакучыла лётаць паводле законаў*
*аэрадынамікі...*
*Паклаўшыся на зямлю,*
*гляджу ў неба —*
*асвойваю думкаю неабсяжнасць.*



*Запалкі,*
*пакуль яны не гараць,*
*проста аскепкі дрэва...*
*Людзі падобныя на запалкі:*
*калі не гараць — утульваюцца ў бяспеку,*
*калі гараць — адтульваюцца для свабоды.*



*Нікога,*
*хто ў гэты свет прыходзіць,*
*не абыходзіць доля:*
*атрымліваюць усе без вынятку*
*два найвялікшыя падарункі —*
*жыццё і смерць.*



*Спасцігаю і слова, і справу,*
*але ўсім жыццём даводзіцца спасцігаць,*
*што свет, які ты намерваешся здабыць,*
*ты ўжо здабыў і так —*
*самім з'яўленнем на свет.*



*Чалавек і правы, і левы —*
*дзве істоты,*
*дзве палавіны...*
*Ён яшчэ мусіць сабою стаць,*
*становячыся ўсім светам.*



*Карэнне і лісцё.*
*Бальшак жыцця зямнога.*
*Цябе сустрэне Ўсё,*
*праводзіць Анічога.*

* * *

*Згадзіўся,*
*змоўк,*
*прывык —*
*абуты і адзеты...*
*А патаемны крык*
*цябе шукае:*
*дзе ты?!.*

* * *

*І выпітая чаша,*
*і ясны дзень пагас,*
*і зноў набыткі нашы*
*не па-за намі —*
*ў нас.*

* * *

*Час паскараецца,*
*час набывае ўсё большы разгон,*
*каб вырвацца*
*з-пад прыцягнення таго,*
*што ўжо адбылося.*





*На той палявой дарозе,*
*па якой мне хадзілася лёгка,*
*павырасталі горы,*
*пайтвараліся прорвы...*
*І гэта з маіх слядоў.*





*Як стары мудры вуж*
*шукае вузкае выйсце,*
*каб скінуць старую скуру —*
*так і я патаемнай вужовай натурай*
*шукаю сабе перашкоды,*
*хаця і пярэчыць гэтаму розум.*



*Тыя недаробленыя работы*
*і недадуманыя думкі,*
*якія я пакідаў на потым,*
*спадзеючыся, што калі-небудзь*
*вырашацца яны самі,*
*так і засталіся на колішнім месцы...*
*І сёння я іх вязень.*



*Сярод гамонкі анямець,*
*з пайтораў выбіцца, з кружэння,*
*і — бы ўваскрошання — хацець*
*сабе не ўдачы —*
*паражэння.*



*Спазніўся ўстаць*
*і спазніўся легчы,*
*спазніўся пачаць работу*
*і спазніўся скончыць —*
*і сталі мяняцца месцамі дні і ночы,*
*вынікі і прычыны,*
*і я апынуўся насупраць самога сябе.*



*Калі атрымліваю перамогу —*
*сцвярджаюся тым, кім ёсць,*
*калі цярплю паражэнне —*
*трачуся тым, кім ёсць...*
*Маю надзею, што некалі навучуся*
*не гнацца за перамогай*
*і не ўхіляцца ад паражэння.*



*Гукаю цябе ў мінулым,*
*гукаю цябе ў наступным —*
*ты адгукаешся*
*рэхам майго гукання.*



*Час —*
*калі адна мэта*
*слухаецца другую.*
*Бясчассе —*
*калі замінае*
*кожная кожнай.*



*Калісьці мы разумелі,*
*што такое дабро,*
*што такое зло,*
*і напісалі пра гэта кнігі.*
*Цяпер мы разумныя тым,*
*што напісана ў кнігах,*
*але самі дабро ад зла*
*адрозніць не можам.*



*Такі рухавы малы —*
*што амаль што выслізгвае са свету,*
*такі нерухомы стары —*
*што свет амаль што выслізгвае ад яго.*



*Навокал прагаліны.*
*І толькі тую сцяжыну,*
*якой мы заўсёды хадзілі з табою,*
*не адпускае зіма.*



*Нямы і шматгалосы,*
*аспрэчваю свой след.*
*А ўвышыні нябёсы —*
*як вышні запавет.*



*Сяджу дома —*
*не падарожнічаю, не вандрую.*
*Падарожнікі апавядаюць*
*пра свае ўражанні і назіранні —*
*назіраю адно за імі.*



*За крок да ўдачы*
*спынюся,*
*за хвіліну да перамогі*
*паглыблюся ў одум...*
*Сябры ўздыхнуць і адыдуць прэч,*
*жыццё ўсміхнецца і спыніцца побач.*



*Усё мінае,— сказаў мудрэц,*
*і ўсе з ім згадзіліся.*
*Аднак засмяяўся непадалёку дзіцёнак,*
*і ўсе, азірнуўшыся, ўспомнілі:*
*і настае.*



*Мы — насенне жыцця.*
*Мы вырастаем людзьмі.*
*Аднак бесперастанку шукаем*
*і час, і месца,*
*каб вырасці цэлым светам.*



*На людзях ці ў глушы*
*ты й шчасны, ты й балесны.*
*Усё месіцца ў душы,*
*а ёй усюды цесна.*





*Аблокі-цемратворцы*
*акрыюць неба твар.*
*Убач сябе, празорца!..*
*Змажы сябе, змагар!..*



*Бы выпаду з сягоння,*
*з гнязда сэрцабіцця...*
*Што скажаш мне, бяссонне,—*
*аскепак небыцця?!.*



*Снег растае.*
*Шкада —*
*і яго,*
*і сябе чамусьці.*



*Сакавік.*
*Усё паварочваецца ў наступнасць,*
*Праз чорнае голле блішчыць*
*востры маладзічок.*



*Вяртаюся да ранейшых размоў,*
*да ранейшых сустрэч,*
*магчымасцей і абавязкаў —*
*каб узяць тое, чаго не ўзяў,*
*каб пакінуць тое, чаго не пакінуў.*



*Жыву між зямлёю і небам,*
*каб стаць з цягам часу*
*асобна зямлёй*
*і асобна небам.*





*Я — рака.*
*Цяку ад таго, дзе быў,*
*кім быў,*
*кім не стаў...*
*А яно даганяе мяне берагамі.*



*Калі твая будучыня*
*сумесціцца з будучыняю сусвету —*
*усе словы дарэчы,*
*усе ўчынкі да месца,*
*усе стрэлы ляцяць у цэль.*



*Азірнуўся —*
*нехта бяжыць па маіх слядах:*
*сухое лісце.*



*Адкрывае абсяг*
*думка-голас,*
*а думцы-бязмоўю*
*адкрываецца неабсяжнасць.*



*Асеннія хмары. Імжа.*
*Няма куды больш спяшацца,*
*няма куды больш паспяваць —*
*усіх суцяшае дождж.*



*Выбег на сцежку*
*няўрымслівы дзьмухавец*
*і разгубіўся:*
*што будзе?!*



*Адной палавінай жыцця набываю,*
*другою — трачу:*
*раскрыжаваны*
*ў самім сабе.*



*Хіба іду зямлёй?!.*
*Іду сабой —*
*бесперастанна сцелючы пад ногі*
*свой цень,*
*свае намеры,*
*свае мэты.*



*Аблётваюць буслы зямлю кругамі,*
*каб увабраць яе ў сябе дарэшты*
*і скіравацца,*
*вольнымі ўжо,*
*ў вырай.*



*Звечарэла.*
*Зайшло чырвонае сонца,*
*выйшаў чырвоны месяц.*
*Блукаю па вуліцах.*
*Восень блізка.*



*Дом знеслі.*
*Застаўся сад.*
*Як пастарэлі адразу дрэвы!*



*Людзі*
*глядзяць у будучыню,*
*мінулае —*
*на людзей.*



*Нізкае шэрае неба.*
*Цяжка стаяць пад ім*
*дрэвам і людзям.*
*Аднак ухіляцца нельга —*
*каб іншым не стала*
*яшчэ цяжэй.*



*У лесе пахмурым*
*бярозы —*
*белыя паланянкі.*



*Такія недасканалыя,*
*у немачах і супярэчнасцях,*
*мы, як імглісты золак,*
*мінаем*
*і не шкадуем пра гэта...*
*З нас нараджаецца дзень.*



*Маленства:*
*пад шэраю глебаю*
*жоўты пясок —*
*радовішча залатое.*



*Ёсць лепшыя за мяне,*
*ёсць горшыя,*
*але сам я*
*ні лепшы, ні горшы —*
*адзіны,*
*угледзьцеся...—*
*чалавек*
*моўчкі кажа людзям.*



*Вулічныя ліхтары —*
*начныя сонцы:*
*на тратуары ляжыць нерухома*
*той самы цень*
*на тым самым месцы.*



*Каб зразумець сябе —*
*думка*
*дзеліцца на дзве часткі:*
*адна становіцца паляўнічым,*
*другая — уцекачом*
*і спасцігаецца,*
*калі гіне.*



*У горадзе шэрых шматпавярховых дамоў*
*як найвялікшае дзіва*
*я раптам убачыў*
*барвовы акраец сонца.*



*Стаю перад кніжнай паліцай,*
*гляджу, не чапаючы іх, на кнігі —*
*чытаю сваю душу.*



*Бабуля з пад'езда:*
*усё цяжэй ёй спускацца па лесвіцы,*
*усё цяжэй падымацца,*
*усё цяжэй заставацца дома.*



*Той абруч,*
*якім сашчапілі дрэва,*
*што раскалолася ад цяжару ўраджаю,*
*увайшоў у сярэдзіну дрэва,*
*карой зацягнуўся,*
*стаў дрэвам самім.*



*Марафон:*
*людзі бягуць*
*навыперадкі*
*са сваім целам.*



*Мы абышлі ўсю зямлю —*
*і вярнуліся на ранейшае месца:*
*жаўцее лісце на дрэвах,*
*да неба ўздымаюцца птушкі,*
*і невядомай дарогаю час*
*ідзе, не сыходзячы з месца.*



*Хаваецца сонца —*
*наш дом супольны.*
*Нібы ў дамавіны, нанач*
*замкнёмся ў свае дамы.*



*Сяджу пад яблыняй,*
*яблыкамі паабчаплянай.*
*Гутару з часам*
*на мове часу.*



*Адчыняю паштовую скрынку:*
*газета, часопіс, ліст...—*
*усё, што было і раней шмат разоў.*
*А кожны раз*
*чакаецца незвычайнае — вестка.*



*Напярэдадні Новага года*
*шлём свае віншаванні-зычэнні небу,*
*а яно — ўсёй зямлі.*
*Сняжынкі.*



*Скончыліся пытанні —*
*і не насталі адказы.*
*Жыву між адным краем часу*
*і між другім —*
*бяскрайні.*



*Дрэва:*
*крывыя галіны,*
*крылатае лісце,*
*скрытыя карані.*



*У вёсцы прадзедаў:*
*пазіраю на хмары —*
*бачу людзей.*



*Пад шэрым небам*
*між шэрых палёў —*
*зялёны агонь надзеі:*
*палетак руні.*



*Калі прыходжу на раздарожжа*
*і чытаю на камені*
*надпісы-перасцярогі —*
*разумею,*
*што чалавеку нічога не застаецца,*
*як, зрэшты, выбраць*
*тую дарогу, якая яго спакон веку чакае,—*
*дарогу ўгору.*



*Вісіць на ўсходзе*
*чырвонае сонца,*
*з высокіх комінаў*
*цягнецца дым...*
*Людзі ідуць хто-куды*
*альбо стаяць — гамоняць*
*і зважаць не зважаюць,*
*што будучыня ўжо адпрэчвае*
*гэты дзень.*



*Сонца адно: яно,*
*землі дзве: дзённая і начная,*
*чалавека — тры:*
*маці, бацька, дзіця...*
*Выходзім па-за сябе безупынна, каб стаць*
*адзінымі ўрэшце.*



*Смерць косіць салому —*
*зярнят скасаваць не можа:*
*ратунак у плёне,*
*у лішку.*



*Дзіця вучыцца вымаўляць*
*свае першыя словы.*
*Дарослыя слухаюць:*
*раптам яно скажа тое,*
*чаго яны ўжо не могуць сказаць.*



*Сосны ўзышлі*
*на самы высокі ўзгорак.*
*Стаяць, разважаюць:*
*куды далей?*



*Той крок,*
*які я не здолеў ступіць напрасткі,*
*ператвараецца ў мноства крокаў*
*па крузе.*



*Каменьчыкі ў ручаі.*
*Людзі не могуць узяць з сабой ручая —*
*бяруць з сабою*
*каменьчыкі.*



*Сустракаюся ў думках з тымі,*
*каго няма побач.*
*Для кагосьці*
*і я таксама ўспамін,*
*для кагосьці*
*і я гэтаксама думка.*



*Пусцее наўколле:*
*праз кроны дрэў*
*замігцелі зоркі.*



*Мёртвы ў мінулым,*
*жывы ў сучасным*
*і неўміручы ў будучыні —*
*куды б чалавек ні ішоў,*
*вядзе з сабой*
*раздарожжа.*



*Блукаю*
*па незнаёмым горадзе.*
*Ніхто мяне тут не спаткае,*
*ніхто не пярэйме,*
*ніхто не скажа:*
*ты сёння не гэтакі, як звычайна.*



*Хіба я ведаю,*
*чаму я ўчора думаў адно,*
*а сёння другое,*
*чаму ўчора быў у адным настроі,*
*а сёння ў другім...*
*Мне часам здаецца,*
*што я рука,*
*у якой ёсць свой уладальнік.*



*Раніца.*
*Дворнік мяце тратуар —*
*ніяк не патрапіць*
*змесці свой цень.*



*Чакайце, птушкі,*
*чакайце, дрэвы,*
*чакай, зямля,—*
*куды вы без чалавека?!.*



*Які ты — неўпрыкметку*
*упэўнішся шматкроць.*
*А вершы — гэта сведкі*
*і за цябе, й супроць.*



*Світае.*
*З глыбінь чалавечага сну*
*ўваскрасаюць сонца*
*і — чалавек.*



*Я там ужо быў,*
*і гэта я ўжо рабіў,*
*і тое ўжо зведаў...—*
*стаю сярод белага дня*
*з жыццём ашчаджоным для невядомай справы,*
*для невядомай думкі*
*і для невядомага дня.*



*Чалавек:*
*упадае ў жыццё*
*вадой,*
*выпадае —*
*лёдам.*



*Тут — спёка,*
*там — сцюжа,*
*тут — дужа цяжка,*
*там — залёгка,*
*тут — я занадта шматстайны,*
*а там — занадта самотны...*
*Усё жыццё шукаю сябе,*
*што быў бы не мной,*
*а кімсьці.*



*Канчаецца лета:*
*лісце*
*туліцца да галіны,*
*галіна — да дрэва,*
*дрэва — да каранёў.*



*Растае снег.*
*А ён жа так шмат абяцаў,*
*калі падаў.*



*Ішоў па зямлі,*
*еў яблыкі,*
*зярняты збіраў*
*і высейваў у дол...*
*Калі прайду ўсю зямлю —*
*вярнуся*
*ў квітнеючы сад.*



*Як бы ні мкнулася дрэва*
*ў неба,*
*яно ўсё роўна*
*не дасягае неба...*
*Але, магчыма,*
*ніякага іншага неба няма,*
*апроч самога імкнення.*

## ЗМЕСТ